ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 12 (1546) | Пятніца, 10 лютага 1961 года | Цана 4 кап.

# ЗДАБЫТКІ КУЛЬТУРЫ—НАРОДУ

УНІВЕРСІТЭТЫ культуры створаны ў рэспубліцы нядаўна. Іх задача — даць слухачам пэўны аб'ём ведаў у галіне музычнага, тэатральнага, выяўленчага мастацтва, літаратуры, навукі і тэхнікі. Але справа гэта не простая. Народныя ўніверсітэты культуры абавязаны ўмела і даходліва прапагандаваць камуністычную ідэалогію, дапамагаць вырашаць адну з галоўных задач — фармаванне новага чалавека з камуністычнымі рысамі характару.

Цяпер у гарадах і раёнах рэспублікі працуе 131 народны ўніверсітэт культуры, у якіх займаюцца каля 40 тысяч чалавек.

АДНЫМ З ЛЕПШЫХ з'яўляецца Гомельскі ўніверсітэт мастацкага выхавання пры Палацы культуры імя Леніна. Ён арганізаваны ў 1958 г. Тут тры факультэты: музычны, тэатральны і выяўленчага мастацтва. Сярод працоўных горада ўніверсітэт карыстаецца вялікай папулярнасцю. Пра гэта сведчыць пастаянны рост колькасці слухачоў. Так, у першым навучальным годзе яго наведвала каля 900 чалавек. Цяпер ва ўніверсітэце займаецца больш тысячы чалавек.

Побач са спецыяльнымі лекцыямі праграма прадугледжвае лекцыі па агульных пытаннях марксісцка-ленінскай эстэтыкі, прапаганду і папулярызацыю важнейшых пастаноў партыі і ўрада. Перад слухачамі часта выступаюць партыйныя работнікі, лектары абкома і гаркома КПБ.

Кожная лекцыя, як правіла, суправаджаецца канцэртам, паказам рэпрадукцый з карцін мастакоў і г. д. З гэтай мэтай у рабоце ўніверсітэта прымаюць шырокі ўдзел артысты, музыканты, мастакі, дэманструюцца кінафільмы. Універсітэт арганізоўвае выстаўкі карцін мясцовых прафесіянальных і самадзейных мастакоў, у Палацы штогод наладжваюцца перасоўныя выстаўкі Мастацкага фонду СССР і БССР, на якіх са слухачамі факультэта выяўленчага мастацтва праводзяцца спецыяльныя заняткі.

Вялікую дапамогу ўніверсітэту аказваюць калектывы музычнага вучылішча, гарадскі самадзейны хор і сімфанічны аркестр. Выступаюць перад слухачамі ўніверсітэта артысты абласнога драмтэатра.

Да кожных заняткаў бібліятэка Палаца рыхтуе выстаўкі літаратуры і наладжвае абмен кніг. Для слухачоў універсітэта спецыяльна арганізавана фанатэка.

Вучэбная праграма прадугледжвае правядзенне семінарскіх заняткаў па факультэтах. Перад кожнымі з іх слухачам паведамляюцца пытанні для абмеркавання, рэкамендуецца літаратура, арганізоўваюцца кансультацыі. Усё гэта забяспечвае актыўны ўдзел слухачоў у семінарскіх занятках.

Кіруе ўніверсітэтам мастацкага выхавання савет з 15 чалавек. Старшыня савета — народны артыст БССР А. Рыбальчанка, загадчык навучальнай часткі — пенсіянер М. Хает.

Слухачы высока ацэньваюць вялікае выхаваўчае значэнне ўніверсітэта. Вось што піша інжынер завода «Рухавік рэвалюцыі» тав. Дворкін: «Пераехаўшы нядаўна на пастаяннае жыхарства ў Гомель, я быў прыемна здзіўлены і ўзрадаваны, калі даведаўся пра існаванне ўніверсітэта мастацкага выхавання. Я праслухаў многа добрых лекцый аб музыцы, аб вялікіх мастаках. Тэматыка цікавая і разнастайная. Яна дае шырокае кола ведаў, і чалавеку, які не ведае тэорыі музыкі, пасля наведвання заняткаў многае становіцца зразумелым».

А вось што піша настаўнік Баршчэўскай сярэдняй школы Рэчыцкага раёна тав. Назараў: «Наш універсітэт наведваю другі год. Як добра, што яго арганізавалі! Хочацца ад душы выказаць падзяку ініцыятарам стварэння нашага ўніверсітэта. Працуючы на вёсцы настаўнікам малявання, часам цяжка адшукаць патрэбную літаратуру, ды і параіцца няма з кім. Я за 25 кіламетраў на спадарожных машынах дабіраюся да Гомеля, каб пабываць на занятках універсітэта. Столькі атрымліваеш задавальнення, слухаючы лекцыі аб мастацтве! Пасля лекцый вяртаюся дадому з пачуццём задавальнення».

Праўленне Палаца культуры дапамагло партарганізацыі і праўленню падшэфнай сельгасарцелі «Першае мая» Уваравіцкага раёна арганізаваць універсітэт культуры ў калгасе. Праграма яго разлічана на два гады навучання, заняткі праводзяцца два разы ў месяц. У праграму ўключаны тэмы па агульнапалітычных пытаннях, марксісцка-ленінскай эстэтыцы, мастацтву, сельскай гаспадарцы, атэізму і літаратуры. Ужо праведзена пяць заняткаў. Чытанне лекцый суправаджаецца выступленнем мастацкай самадзейнасці Палаца культуры, паказам фільмаў. Калгасны ўніверсітэт наведвае 250 чалавек. Пры ім створан савет на чале з дырэктарам сярэдняй школы І. Сахноўскай — слухачом універсітэта мастацкага выхавання пры Палацы культуры.

ДОБРА працуе Гродзенскі гарадскі народны ўніверсітэт. Калі ў пачатку 1959 г. тут навучалася 300 чалавек, дык цяпер іх — 1.800. У 1960 — 1961 навучальным годзе створаны факультэты: літаратурна-драматычны, музычны, навукі і тэхнікі, савецкага права.

Формы заняткаў ва ўніверсітэце разнастайныя: лекцыі-канцэрты, тэматычныя вечары, сустрэчы з пісьменнікамі і дзеячамі мастацтва, наватарамі вытворчасці, абмеркаванне асобных твораў, выстаўкі і інш. На факультэце навукі і тэхнікі праведзена ў мінулым годзе 12 заняткаў. Асабліва добра прайшлі заняткі па тэме аб аўтаматызацыі і механізацыі ў прамысловасці. З цікавай лекцыяй па гэтаму пытанню выступіў кандыдат тэхнічных навук тав. Канавалаў (Мінск). Пасля лекцыі для слухачоў была арганізавана кансультацыя і паказан навукова-папулярны фільм.

На літаратурна-драматычным факультэце таксама праведзена 12 заняткаў. Асабліва добра прайшлі заняткі: «Тэма сучаснасці ў беларускай літаратуры», у якіх прынялі ўдзел пісьменнікі. Лекцыю прачытаў Ул. Карпаў, затым выступілі Я. Скрыган, Р. Няхай, П. Прыходзька. У фае быў арганізаваны продаж кніг беларускіх пісьменнікаў.

На ўсіх факультэтах універсітэта арганізавана чытанне лекцый грамадска-палітычнага цыкла. Цяпер праводзіцца вывучэнне матэрыялаў маскоўскай Нарады прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый.

Другі год паспяхова працуе народны ўніверсітэт у саўгасе «Ваўкавыскі» Ваўкавыскага раёна, у якім 256 слухачоў, галоўным чынам рабочых.

Заслугоўвае ўвагі работа ўніверсітэта навукі і культуры пры Рэчыцкім дрэваапрацоўчым камбінаце. Тут працуюць два факультэты: навукова-тэхнічны і літаратуры і мастацтва. Заняткі наведваюць больш 200 чалавек. Праграма навукова-тэхнічнага факультэта прадугледжвае азнаямленне слухачоў з навейшымі дасягненнямі навукі і тэхнікі, з новым у дрэваапрацоўчай прамысловасці і прымяненнем яго на сваім прадпрыемстве.

Вучоба ва ўніверсітэце станоўча ўплывае на калектыў, асабліва на моладзь, спрыяе развіццю спаборніцтва за званне ўдарнікаў і брыгад камуністычнай працы. Толькі з ліку слухачоў дамагаецца гэтага звання на прадпрыемстве звыш ста чалавек. Многія з іх паказваюць высокія ўзоры працы.

ДВУХГАДОВЫ шлях развіцця ўніверсітэтаў культуры вызначаецца не толькі поспехамі. Як і ва ўсякай новай справе, і тут ёсць няўдачы, недахопы і памылкі. ЦК КПСС у пастанове «Аб рабоце ўніверсітэтаў культуры» адобрыў народную ініцыятыву па стварэнню ўніверсітэтаў, адначасова станоўчае ў іх рабоце і разам з тым указаў на сур'ёзныя недахопы ў іх дзейнасці. ЦК КПБ у лістападзе 1960 г. намеціў і зацвердзіў канкрэтныя мерапрыемствы, якія забяспечваюць далейшы ўздым гэтай новай формы вучобы працоўных.

Найбольш сур'ёзны недахоп, як адзначаецца ў пастанове ЦК КПСС,— захапленне культурніцтвам на шкоду ідэйнаму марксісцка-ленінскаму выхаванню працоўных. Характэрным прыкладам універсітэта культуры, у якім сур'ёзная праца па навучанню і выхаванню працоўных падмяняецца забавамі, можа служыць Маладзечанскі. Тут для слухачоў не чытаюцца лекцыі на грамадска-палітычныя тэмы, па пытаннях марксісцка-ленінскай эстэтыкі, папулярныя лекцыі па музыцы. Ва ўніверсітэце няма прадуманага вучэбнага плана. Па сутнасці, усёй работай кіруе Белдзяржфілармонія. Гарадскі аддзел культуры заключыў з ёю дагавор на пэўную колькасць лекцый-канцэртаў на цэлы навучальны год (па 1 200 рублёў за лекцыю), і больш у працу ўніверсітэта ён не ўмешваецца. Белдзяржфілармонія ж па свайму жаданню два разы ў месяц праводзіць лекцыі-канцэрты, прычым іх можна хутчэй назваць канцэртамі. Заняткаў па іншых пытаннях у гэтым навучальным годзе яшчэ не праводзілі.

Таксама шкодная для справы і другая крайнасць — акадэмічны абстрактна-асветніцкі падыход да арганізацыі працы ўніверсітэтаў культуры.

Узровень работы народных універсітэтаў вызначаецца складам лектараў. Рэспубліканскае Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў, яго аддзяленні на месцах разам з партыйнымі камітэтамі правялі вялікую работу па згуртаванню лектарскіх сіл. Да выкладання ва ўніверсітэтах прыцягнуты сотні лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі. Многія з іх, выконваючы свой патрыятычны абавязак, бескарысліва аддаюць свае веды народу. Да ліку такіх можна аднесці П. Ніківарава (выконваючага абавязкі загадчыка кафедры гісторыі выяўленчага мастацтва Тэатральна-мастацкага інстытута), А. Вейнік — членакарэспандэнта Акадэміі навук БССР, Д. Камісарава — загадчыка аддзялення тэорыі музыкі Мінскага музычнага вучылішча імя Глінкі, Н. Тверыцына — кандыдата філалагічных навук, выкладчыка Гомельскага педінстытута, П. Шрыкіна — лектара Рэчыцкага РК КПБ, А. Валуевіча — настаўніка Дзятлаўскай сярэдняй школы № 1, Л. Юткіна — загадчыка Казловіцкай пасялковай бібліятэкі і інш.

Добрую ініцыятыву праявіла кафедра літаратуры Белдзяржуніверсітэта імя Леніна, работнікі якой вырашылі бясплатна чытаць лекцыі па літаратуры ва ўніверсітэце культуры аўтазавода.

Вялікую работу па прапагандзе музычнай культуры праводзіць Бабруйская музычная школа і Белдзяржкансерваторыя.

Калі ў мінулым годзе ў многіх раёнах арыентаваліся галоўным чынам на лектараў з Мінска і абласных цэнтраў, дык пераважную большасць лекцый па літаратуры, тэхніцы, эканоміцы, на грамадска-палітычныя, медыцынскія і іншыя тэмы чытаюць цяпер мясцовыя лектары.

Аднак ёсць нямала выпадкаў, калі нашы творчыя арганізацыі і саюзы несур'ёзна ставяцца па падбору лектараў для ўніверсітэтаў культуры, калі некаторыя лектары ідуць ва ўніверсітэты без адпаведнай падрыхтоўкі. Так, напрыклад, 16 студзеня бягучага года на факультэце навукі і тэхнікі Гродзенскага ўніверсітэта культуры з лекцыяй аб электронна-лічыльных машынах выступаў загадчык лабараторыі лічыльна-рашаючых машын АН БССР тав. Саковіч. На працягу паўтара гадзін лектар гаварыў пра лічыльныя машыны незразумелай для слухачоў мовай, без усялякіх наглядных дапаможнікаў і схем, нават не карыстаўся дошкай і крэйдаю.

Ва ўніверсітэце мастацкага выхавання, які працуе пры Бабруйскім Доме настаўніка з лекцыяй на тэму «Эпоха, у якой мы жывём» 11 студзеня 1960 г. выступіў член таварыства тав. Касенка. Да гэтай лекцыі ён быў не падрыхтаваны, важнейшых палажэнняў, якія характарызуюць сучасную эпоху, не раскрыў і гаварыў не па тэме.

СУР'ЁЗНЫЯ недахопы дапускаюцца ў прапагандзе музычнай культуры. У радзе ўніверсітэтаў лекцыі па музычнай культуры чытаюцца непаслядоўна, шмат увагі аддаецца кампазітарам, якія не займаюць вядучага месца ў гісторыі музычнага мастацтва. Нярэдкія выпадкі, калі лекцыі аб класіках рускай музыкі праводзяцца паспешна. Так, напрыклад, у Пастаўскім універсітэце культуры лектар тав. Багамолаў умудрыўся прачытаць лекцыю «М. І. Глінка — заснавальнік рускай класічнай музыкі» за 15 хвілін.

За апошнія гады ў рэспубліцы выраслі свае музычныя кадры, у кожным горадзе і ў многіх раённых цэнтрах Беларусі ёсць свае музыказнаўцы, аднак іх мала прыцягваюць да працы ўніверсітэтаў культуры. Узяць хоць бы Маладзечна. Тут ёсць музычнае вучылішча і школа, у якіх працуе 30 спецыялістаў, а ў працы ўніверсітэта культуры ні адзін з іх не прымае ўдзелу. Таксама не прыцягнуты грамадскія сілы да працы ўніверсітэта культуры Мінскага аўтазавода. Кіраўнікі гэтага ўніверсітэта пайшлі па лягчэйшаму шляху— яны заключылі дагавор на лекцыі-канцэрты з Белдзяржфілармоніяй на ўвесь год, пералічылі ёй некалькі дзесяткаў тысяч рублёў і супакоіліся.

Трэба сказаць, што кіраўніцтва Белдзяржфілармоніі займае не зусім правільную пазіцыю ў адносінах да ўніверсітэтаў культуры. Янаператварыла народныя ўніверсітэты ў залатаносную жылу, у сродак выканання фінансавага плана. Летась філармонія заключыла дагавор на правядзенне лекцый-канцэртаў у 28 універсітэтах культуры рэспублікі. Каб правесці лекцыю «Творчасць Моцарта і Бетховена» ў суправаджэнні чатырох выканаўцаў асобных твораў, Гродзенскаму абласному аддзяленню таварыства ведаў давялося заплаціць Белдзяржфілармоніі 2 200 рублёў, а за 15-хвіліннае выступленне артыста Чарнабаева філармонія прад'явіла рахунак у суме 650 рублёў. Падобных прыкладаў можна прывесці многа.

Варта адзначыць, што ў філармоніі ўсяго два штатныя лектары, якім немагчыма абслужыць амаль 30 універсітэтаў культуры без шкоды для якасці лекцый. І таму многія іх лекцыі чытаюцца на нізкім узроўні.

Кіраўніцтву і партыйнай арганізацыі Белдзяржфілармоніі варта карэнным чынам змяніць свае адносіны да народных універсітэтаў, павысіць якасць, ідэйнае і выканаўчае майстэрства сваіх лекцый і канцэртаў.

ВЫБАР праграмы — адзін з важнейшых фактараў у рабоце ўніверсітэта культуры. Праграмы ўніверсітэтаў павінны складацца з улікам складу слухачоў і іх пажаданняў, наяўнасці выкладчыцкіх сіл, а таксама агульных задач камуністычнага выхавання працоўных. Аднак у асобных выпадках гэтыя пажаданні не ўлічваюцца. У праграмы асобных універсітэтаў трапляюць выпадковыя тэмы, якія не даюць элементарных ведаў у той ці іншай галіне, не здольныя ўплываць на фармаванне камуністычнага светапогляду.

У навучальнай праграме Целеханскага ўніверсітэта культуры шмат увагі аддаецца такім тэмам: «Як сервіраваць стол і паводзіць сябе за сталом», «Аб сціпласці ў адзенні і прычосцы» і г. д. Вядома, нядрэнна, калі чалавек ведае, як сервіраваць стол, умее сустрэць гасцей. Але не варта рабіць гэтыя пытанні галоўнымі ў рабоце ўніверсітэтаў культуры. А праграмы раду ўніверсітэтаў (шклозавода «Камінтэрн», Бабруйскага фанера-дрэваапрацоўчага камбіната) — просты набор тэм, нічым не звязаных паміж сабой.

У радзе выпадкаў праграмы ўніверсітэтаў культуры скіраваны ў мінулае, слаба звязаны з жыццём народа, з актуальнымі задачамі камуністычнага будаўніцтва і выхавання новага чалавека.

Неабходна адзначыць, што некаторыя ўніверсітэты зусім недастаткова знаёмяць слухачоў з развіццём культуры беларускага народа. У іх праграмах мала аддаецца ўвагі азнаямленню працоўных з культурай братніх народаў сацыялістычных краін.

Вывучэнне вопыту работы ўніверсітэтаў рэспублікі паказала, што ёсць і іншыя недахопы. Ужо другі год працуе Ваўкавыскі ўніверсітэт культуры. Аднак пастаяннага складу слухачоў тут няма. Праграма работы на гэты навучальны год не складзена і прачытана ўсяго тры лекцыі.

Вельмі дрэнна працуе ўніверсітэт культуры на Бабруйскім камбінаце па перапрацоўцы другаснай сыравіны. Тут працуюць больш тысячы рабочых —у асноўным моладзь. У кастрычніку 1960 г. па ініцыятыве камсамольскай арганізацыі створан універсітэт культуры. У яго запісаўся 181 чалавек, створан грамадскі савет, вызначаны дні заняткаў. Аднак універсітэт не мае праграмы і дакладнага навучальнага плана. Заняткі зрываюцца, часта праводзяцца паміж зменамі на працягу 30—40 хвілін.

А ў Суражы і Багушэўску ўніверсітэты культуры зусім перасталі існаваць.

Усё яшчэ ў вялікім даўгу перад слухачамі ўніверсітэтаў творчыя арганізацыі і саюзы. Да гэтага часу мала мастакоў, пісьменнікаў, кампазітараў і артыстаў выступае перад імі.

У рэспубліцы шмат арганізацый, якія абавязаны займацца работай універсітэтаў культуры: Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў, органы Міністэрства культуры, прафсаюзы і іншыя, аднак ні адна з іх не ўзяла на сябе клопату аб рабоце ўніверсітэтаў культуры. Цяпер у мэтах каардынацыі дзейнасці паміж усімі ведамствамі і арганізацыямі створан рэспубліканскі міжведамасны савет. Для распрацоўкі праграм і навучальных планаў народных універсітэтаў пры рэспубліканскім таварыстве арганізаван метадычны савет.

Днямі адбылася рэспубліканская нарада кіраўнікоў народных універсітэтаў. Яна паказала, што ў іх рабоце ўжо ёсць пэўны станоўчы вопыт. Задача грамадскіх саветаў народных універсітэтаў праз друк, радыё і тэлебачанне шырока распаўсюджваць гэты лепшы вопыт.

Сумеснымі намаганнямі органаў культуры, Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў, прафсаюза, камсамола, пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый трэба дамагчыся, каб універсітэты культуры працавалі лепш, каб усёй дзейнасцю яны развівалі ў працоўных, у моладзі імкненне да ведаў, узбагачалі іх, садзейнічалі фармаванню новага чалавека — будаўніка камунізма.

Н. ЛУКАВЕЦКІ,
П. ТАРАСЕВІЧ.

# Дзень шчырых размоў

Дзень шчырых размоў — так, бадай, больш правільна можна назваць гэтае мерапрыемства, хоць у планах яно запісана — «Дзень пісьменніка на аўтазаводзе». Справа ў тым, што ва ўсіх цэхах буйнейшага ў рэспубліцы прадпрыемства пісьменнікі не толькі чыталі свае творы і расказвалі аб задумах, але і вялі шчырыя размовы аб усім тым, што хвалюе простага савецкага чалавека, будаўніка сямігодкі, будаўніка камунізма.



Пісьменнікі сярод рабочых кавальскага цэха.

Сустрэча з мінскімі аўтазаводцамі не зусім звычайная яшчэ і таму, што праводзілася яна не ў Палацы культуры вечарам, пасля працоўнага дня, не на эстраднай пляцоўцы, а непасрэдна ў цэху, у час абедзеннага перапынку. Тут не было гэтага афіцыйна-ўрачыстага падзелу: пісьменнікі — на сцэне, аматары літаратуры — у зале. Людзі сядзелі ў крэслах, на табурэтках, запоўнілі праходы, сядзелі на падаконніках. Аказалася, дарма непакоіліся некаторыя пісьменнікі, што сустрэчы не адбудзецца: абедзенны перапынак — адна гадзіна. Але аказалася, што паабедаць у сталовай можна за дзесяць — пятнаццаць хвілін. Такім чынам 45 хвілін — слухаць вершы, задаваць пытанні, выказваць свае думкі і пажаданні.

Вось так было ў кавальскім цэху. Чырвоны куток тут абсталявалі нядаўна. Ён прасторны, утульны, і амаль што ўсе ўмясціліся, хто жадаў сустрэцца з А. Астрэйкам, М. Танкам, М. Хведаровічам, С. Шушкевічам. Паэты чыталі па аднаму — два вершы. Потым падпісвалі аўтографы на кніжках, якія можна было набыць у цэху, фатаграфаваліся на памяць і адказвалі на пытанні. Яны былі розныя:

— Што пішаце цяпер?

— Чаму няма твораў пра аўтабудаўнікоў?

— Калі зноў прыедзеце на завод?

— Я чытаў кнігу... Яна нецікава напісана...

Нялёгка адказаць, чаму кніга не зацікавіла чытача. Можа, яна не трапіла густу? А можа, і сапраўды няўдалая?

— Пісьменнік недасканала вывучыў жыццё, — гаворыць рабочы.

Папрок заслужаны. Каб напісаць добрую кнігу, трэба добра ведаць жыццё, асяроддзе, пра якое пішаш. На жаль, бывае і так, што пісьменнік два — тры разы наведае той ці іншы завод і адразу сядае за апавяданне ці аповесць. Зразумела, што такая скараспелая кніга не будзе амець поспеху ў чытача:

Трэба пагадзіцца, што сапраўдных герояў для твораў і сапраўдныя жыццёвыя канфлікты можна знайсці непасрэдна і на аўтазаводзе. Гэта пацвердзілі рабочыя прасавага цэха, куды прыйшлі П. Глебка і М. Аляксееў, цэха шасі, дзе сустрэліся з рабочымі С. Грахоўскі, Г. Папоў і В. Тарас, валачыльна-нарыхтоўчага цэха, які наведаў А. Кучар. Пісьменнікам расказалі, што ў 1961—1963 гг. завод ажыццёвіць пераход на выпуск новых аўтамабіляў: кузаўной машыны МАЗ-500, самазвала МАЗ-503. Гэта машыны з вялікай магутнасцю рухавікоў, металічнай кабінай над матором, новым рулём з гідраўзмацняльнікам. Хуткасць гэтых машын узрасце на 15 працэнтаў. Паменшыцца ўдзельнае выдаткаванне паліва. Над стварэннем новых машын плённа працуюць штампоўшчыкі Ул. Жук і В. Салавей, наладчык М. Марчанка, прасаўшчыца В. Магільніцкая, зборшчык Г. Шкадзінскі і многія іншыя.

Выступае Пятро Глебка.

Расказалі, што ў цэху зборкі 60 рабочых з'яўляюцца рацыяналізатарамі. Ад укаранення ў вытворчасць 50 рацыяналізатарскіх прапаноў атрымана эканомія каля 90 тысяч рублёў. А за год рацыяналізатары завода далі дзяржаве эканоміі 795 тыс. рублёў у новым маштабе цэн. Ці не за гэтымі скупымі фактамі і сухімі лічбамі можна знайсці простых людзей, сапраўдных гаспадароў народнага дабра, майстроў сваёй справы — герояў будучых апавяданняў, аповесцей, раманаў, паэм.

У цэху шасі М. Скрыпку нясмела кранула за руку дзяўчына ў камбінезоне.

— Вы пазнаеце мяне? — спытала яна.

— Як жа! Ларыса Мамчыц!..

Пісьменніка М. Скрыпку і шліфоўшчыцу Л. Мамчыц адразу акружылі з усіх бакоў рабочыя. Стала вядома цікавая падрабязнасць. Калісьці Ларыса вучылася ў Турынскай сярэдняй школе Пухавіцкага раёна, дзе працаваў выкладчыкам М. Скрыпка. Дзяўчына вучылася добра, скончыла дзесяць класаў і пайшла працаваць на завод. Цяпер яна шліфоўшчыца.

— Вось і напішыце пра яе! — просяць хлопцы.

— Пра мяне яшчэ нельга ,— чырванеючы, гаворыць Ларыса. — Я працую на адным станку. А вось мая сяброўка абслугоўвае шэсць станкоў. Пра яе варта напісаць...

На галоўны канвеер завода не ў першы раз прыйшла Э. Агняцвет. Маленькія чытачы добра ведаюць яе паэму «Званне гордае — рабочы», якая расказвае пра галоўны канвеер. Цяпер Агняцвет прачытала ўрыўкі з паэмы. Іх цёпла сустрэла рабочая аўдыторыя.

У механа-зборачны цэх, які знаходзіцца побач, прыйшлі І. Шамякін і балгарскі пісьменнік і літаратуразнаўца Георгій Вылчаў, які прыехаў у нашу рэспубліку. Аб развіцці беларускай савецкай літаратуры, аб новых творах празаікаў і паэтаў расказаў прысутным І. Шамякін. Затым слова было прадастаўлена балгарскаму сябру. З няменшай цікавасцю слухалі зборшчыкі пра літаратурнае жыццё, мастацтва і культуру новай Балгарыі, дзе добра ведаюць вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа, дзе з радасцю сочаць за поспехамі беларускіх празаікаў, паэтаў , драматургаў.

Зразумела, што размова ў цэхах буйнейшага завода пра паэзію, пра мастацтва і жыццё была кароткай і яна працягнулася ў кабінеце партыйнай асветы, дзе сабраліся пісьменнікі, партыйныя і прафсаюзныя работнікі прадпрыемства, работнікі «Саюздруку» і кнігагандлю. Прысутныя пагадзіліся, што такая сустрэча была карыснай і для аўтамабілебудаўнікоў і для пісьменнікаў. Да ўдзелу ў такіх сустрэчах варта запрашаць артыстаў тэатра, кінастудыі, філармоніі.

Некаторыя пісьменнікі часам сцвярджаюць, што на сустрэчы ў рабочыя клубы павінны ісці брыгады літаратараў — тры—пяць чалавек. Маўляў, адзін прачытае вершы, другі — апавяданне, трэці што-небудзь раскажа. А вось дзень на аўтазаводзе паказаў, што ў цэх (а цэх — гэта сто і дзвесце рабочых) можа прыйсці адзін празаік або паэт і такая сустрэча не будзе сумнай. Амаль увесь абедзенны перапынак П. Глебка расказваў пра цяжкую і пачэсную працу пісьменніка. Яго слухалі з захапленнем. І калі б не трэба было ісці да станкоў — сядзелі б і гадзіну і дзве, засыпаючы паэта рознымі пытаннямі.

Сакратар партыйнага камітэта завода запрашаў пісьменнікаў прыязджаць часцей. Запрашэнне прыемнае. Пісьменнікі прынялі яго.

У сустрэчы з аўтазаводцамі ўдзельнічалі таксама А. Бачыла, Н. Гілевіч, Р. Няхай, А. Бялевіч, Ул. Мехаў, Ул. Шахавец, А. Русецкі.

К. ІЛЫН.
Фота Ул. Крука.

НАШЫ МАЯКІ

# КАЛІ ТЫ ДАЎ СЛОВА...

Праца, мабыць, уплывае на характар чалавека ў большай меры, чым нам здаецца. Калі, скажам, працуеш трактарыстам і дзень у дзень падоўгу знаходзішся сам з сабой, то мімаволі становішся немнагаслоўным, хоць у той жа час і больш разважным.

Іменна такім у Клічаўскім раёне ведаюць Генадзя Жудро, механізатара з калгаса «Перамога». Гэты рослы плячысты малады чалавек з адкрытым ветлівым тварам вызначаецца стараннасцю ў працы. Але паспрабуйце яго ўгаварыць выступіць нават перад невялікай аўдыторыяй! Ні блізка! Наколькі любіць сваю прафесію, настолькі ж не любіць выступаць з прамовамі. Ён нават шчыра спачувае тым, каму прыходзіцца многа выступаць, пераконваць, спрачацца.

— Яны пазбаўлены радасці непасрэднай вытворчай працы, — тлумачыць Жудро.

Такая рыса характару механізатара зусім не азначае, што ён нейкі маўчун і наогул замкнёны і скрытны чалавек. Наадварот, Генадзь — чалавек з адкрытай і шчырай душой, і калі ўжо справа даходзіць да сур'ёзнай размовы, можа коратка і трапна выказаць думку.

Працуе Генадзь Жудро ў трактарнай брыгадзе параўнальна нядаўна. Мінула тры гады, як ён вярнуўся з арміі ў сувязі са скарачэннем савецкіх узброеных сіл. Праўленне сельгасарцелі прыгледзелася да ўчарашняга салдата і накіравала яго ў школу механізацыі сельскай гаспадаркі. Генадзь і ў школе быў такім жа дысцыплінаваным, цікаўным і старанным, як і на ваеннай службе. А тое, што ў арміі яго хвалілі і заахвочвалі, ведалі ў калгасе добра: Жудро двойчы прыязджаў да бацькоў на пабыўку.

З першых жа дзён малады трактарыст стаў працаваць асабліва старанна. Першыя поспехі прынеслі і першыя радасці: пачуццё ўласнай годнасці і дастатак. Але адначасова з'явіліся і некаторыя своеасаблівыя для яго непрыемнасці. Трэба было выступаць, расказваць...

— Ну, які я прамоўца, — адмахваўся ён. — Мне лягчэй дзянёк-другі папрацаваць на трактары, чым выступіць з пяцімінутнай прамовай. Трыбуна — не мая стыхія...

— А навошта трыбуна? — гаварыў сакратар партарганізацыі Рыгор Мацюшонак. — Правядзі з трактарыстамі гутарку ў полі. Падзяліся думкамі, як лепш арганізаваць працу. Табе ёсць што сказаць: і з работай спраўляешся добра, і чытаеш многа — больш за другіх.

Правільна гаварыў сакратар. Генадзь і сам адчуваў, што ёсць аб чым пагаварыць з механізатарамі. Гутарка адбылася і, як потым сцвярджалі трактарысты, вельмі цікавая. Было закранута важнае пытанне: комплексная механізацыя і што яна можа даць. Жудро расказаў пра вопыт вядомых на ўсю краіну механізатараў Гіталава і Манукоўскага.

— Вось бы і нам паспрабаваць,— заключыў ён.

Яго дружна падтрымалі трактарысты.

— Давайце ў такім разе створым звяно па комплекснаму вырошчванню кукурузы ў нашым калгасе, — прапанаваў Жудро.

— Вось здорава! — падхапіў Аляксей Харлап, хударлявы парывісты трактарыст. — Звяно, скажам, з двух чалавек праводзіць з пачатку да канца ўсе работы па кукурузе — ад падрыхтоўкі глебы і сяўбы да ўборкі і сіласавання. Двое замянілі б шэсцьдзесят — семдзесят чалавек. Ого! Здзівіліся б і ў калгасе, і ва ўсім раёне.

— Здзівіць можна па-ўсякаму,— прабурчаў брыгадзір трактарнай брыгады Пятро Аўтуховіч. — Іншы ўхопіцца за малазнаёмую справу, наабяцае, а потым нічога не зробіць і сядзе макам... Калі ўжо здзіўляць каго, дык толькі ўдачай!

Комплекснае механізаванае звяно было створана ўвосень 1959 г. У яго ўвайшлі Генадзь Жудро і Аляксей Харлап. Узначальваць звяно праўленне і партарганізацыя даручылі Жудро.

Так быў пакладзен пачатак справе, аб выніках якой праз некаторы час разнеслася вестка з высокай трыбуны студзеньскага Пленума ЦК КПСС. І дакладваў Пленуму пра поспехі звяна не хто іншы, як сам звеннявы Генадзь Жудро, сціплы беларускі механізатар з Магілёўшчыны.

* * *

Плошчу пад кукурузу ў калгасе адвялі не маленькую — 101 гектар. Зямля патрабавала добрага ўгнойвання. Зімой Генадзь з Аляксеем вывозілі на палі і кампаставалі торф з гноем. На кожны гектар прыпадала не менш 40 тон арганічных угнаенняў. Доўгімі зімовымі вечарамі сядзелі з аграномам Мікалаем Кушнерам, вывучалі асаблівасці агратэхнікі вырошчвання кукурузы.

Вясной для звяна наступіла гарачая пара. Вельмі важна было пасеяць так, каб на полі ўтварыліся правільныя квадраты кукурузы. Старшыня калгаса В. Тарасевіч нагадваў на кожным кроку:

— Без правільных квадратаў з вашай задумы нічога не выйдзе.

Калі ўзышла кукуруза — адлегла ад сэрца ў механізатараў: квадраты выйшлі раўнюткія. Генадзь

(Заканчэнне на 4-й стар.).

Рабочыя слухаюць паэта.

# Кіначасопіс «Савецкая Беларусь»

На экранах рэспублікі пачаў дэманстравацца кіначасопіс «Савецкая Беларусь» № 3. Першы яго сюжэт— «Насустрач вясне» расказвае аб працоўных дасягненнях калектыву Вілейскай рамонтнай машынна-трактарнай станцыі, які абавязаўся ў гонар XXII з'езду Камуністычнай партыі закончыць рамонт усёй сельскагаспадарчай тэхнікі да пачатку веснавых палявых работ.

Віцебскі дывановы камбінат — першае ў рэспубліцы прадпрыемства камуністычнай працы. У напружаных буднях сямігодкі тут нараджаюцца героі нашых дзён. Пра іх расказвае другі сюжэт нумара — «На новыя рубяжы».

Гледачы даведваюцца аб адкрыцці ў Пінску мемарыяльнай дошкі, прысвечанай памяці палымянай патрыёткі Радзімы, Героя Савецкага Саюза Веры Харужай; аб тым, што на Мінскім заводзе будаўнічых канструкцый асвоена вытворчасць цэментавых труб.

З цікавасцю будуць прагледжаны кінакадры аб другой рэспубліканскай выстаўцы мастацкай фатаграфіі, у якой прыняла ўдзел вялікая колькасць фатографаў-прафесіяналаў і аматараў, а таксама кінакадры аб рабоце адкрытай нядаўна ў Мінску новай дамавой кухні.

Наступныя кадры прысвячаюцца спартыўнаму таварыству гомельскіх чыгуначнікаў, якое адзначала нядаўна сваё 25-годдзе.

Часопіс расказвае аб кінасеансах, якія штодзённа арганізоўваюцца ў Мінску пад адкрытым небам. У заключэнне гледачы пазнаёмяцца з новай харэаграфічнай карцінай «Лялькі» ў выкананні Дзяржаўнага ансамбля танца УССР.

# ЗА ЧАСТАКОЛАМ ЛІЧБАЎ

ЦК КПСС у вядомай пастанове вызначыў, што галоўныя задачы бібліятэк—прапаганда гістарычных рашэнняў XXI з'езду партыі, актыўная дапамога грамадскасці ў выхаванні і павышэнні камуністычнай свядомасці і культурна-тэхнічнага ўзроўню савецкіх людзей. Таму ЦК КПСС паставіў задачу: у бліжэйшыя два — тры гады дабіцца, каб бібліятэчную кнігу чыталі ў кожным населеным пункце, у кожнай сям'і.

Многія бібліятэкі Мінскай вобласці разгарнулі шырокае сацыялістычнае спаборніцтва і ў канцы мінулага года рапартавалі аб поспехах у выкананні сваіх задач. Адрапартаваў і Старадарожскі раённы аддзел культуры. Праўда, рапарт гэты быў своеасаблівы, таму і зацікавіў нас.

У зводцы адзначалася, што ў раёне—11 102 двары, а бібліятэчныя кнігі чытаюць ужо ў 10 147. Калі б тут была пастаўлена кропка, кожнаму было б відаць, што ў раёне многае зроблена, але нямала яшчэ трэба зрабіць. Дык жа не! Старадарожскі аддзел культуры і раённая бібліятэка астатнія 955 двароў аднеслі ў лік непісьменных! Дзіўна? Вядома.

Звернемся да фактаў.

Загадчыцай Горкаўскай сельскай бібліятэкі працуе Я. Хмялёва. А. Вечар—загадчык раённага аддзела культуры—характарызуе яе як аднаго з лепшых работнікаў. Праўда, яму крыху не падабаецца, што Хмялёва не шануе рангаў «начальства» і рэжа праўду ў вочы.

Варта пабыць некаторы час у Горкаўскай сельскай бібліятэцы, каб пераканацца, што яе загадчыца — чалавек на сваім месцы.

Нам, каб знайсці ў вёсцы гэтую бібліятэку, давялося звярнуцца да хлапчукоў, якія на калгасным двары гулялі ў снежкі.

— Вунь там, у шпакоўні, — махнуў рукой адзін з іх, — самі ўбачыце.

Да мінулага года гэтая бібліятэка знаходзілася пад адным дахам з сельскім Саветам у пасёлку Паськавы Горкі. Тут, як кажуць, увесь культурна-адміністрацыйны цэнтр: сельскі Савет, лясніцтва, дарожны ўчастак, магазіны. Сюды часцей і больш ходзяць жыхары з навакольных вёсак. Тут бы ёй і месца.

Але мясцовым уладам спатрэбілася знайсці памяшканне для аддзялення сувязі і яны нічога іншага не здолелі прыдумаць, як... выселіць бібліятэку ў другую вёску, дзе знайшлася пустая «хатка на курыных ножках».

І гэта пасля таго, як у пастанове ЦК КПСС ясна запісана: «Усім установам і арганізацыям забаронена выкарыстанне памяшканняў бібліятэк для іншых мэт і перасяленне бібліятэк у горшыя памяшканні. Разглядзець пытанне аб магчымым перамяшчэнні бібліятэк, якія знаходзяцца ў непрыгодных памяшканнях, у добраўпарадкаваныя памяшканні за лік ушчыльнення кантор розных арганізацый і ўстаноў».

Як бачыце, у Старадарожскім раёне ўсё разумеюць па-свойму. Яно і не дзіўна, калі мець на ўвазе, што пры абмеркаванні пытання аб высяленні бібліятэкі старшыня райвыканкома В. Ваньшын на пярэчанні Я. Хмялёвай заявіў: «Кнігі чытаюць дзеля забавы, і калі хто захоча, то знойдзе вас і там».

Такія адносіны да бібліятэкі не ўстрывожылі загадчыка аддзела культуры А. Вечара. Ён адчуваў сябе надзвычай спакойна і цэлых два месяцы спрачаўся са старшынёй сельскага спажывецкага таварыства: чыя справа зашкліць вокны ў Горкаўскай бібліятэцы.

Можна яшчэ дадаць, што ў кожнай брыгадзе калгаса імя Дзяржынскага ёсць электрасвятло. Гарыць лямпачка Ільіча ў дамах калгаснікаў, на жывёлагадоўчых фермах—усюды, дзе ёсць у гэтым патрэба. Толькі ў сельскай бібліятэцы цёмна. Бачыце, не знойдуць у раёне... сем метраў электраправодкі!

Таму зусім не дзіўна, што наведваюць бібліятэку ўсяго 193 чытачы (з іх каля ста школьнікаў), у той час як у мінулым годзе яе наведвалі 500 чытачоў. Праўда, бібліятэка мае яшчэ чатыры перасоўкі і пункт выдачы, якія ўсе разам выдаюць кнігі 151 чытачу. Такім чынам 344 чытачы амаль на дзве тысячы двароў сельскага Савета! Куды ж вы аднеслі астатнія сем'і калгаснікаў, тав. Вечар? Выходзіць, што толькі ў адным сельсавеце «непісьменных» больш, чым у зводцы па ўсім раёне.

Не ў лепшым стане культурна-асветная работа і ў Шчыткаўскім, Дараганаўскім, Языльскім і іншых сельсаветах. Большасць клубаў, бібліятэк на сяле не падрыхтаваны да работы ў зімовых умовах, не забяспечаны палівам, святлом. Дык каго ж можа прывабіць такая культасветустанова?

Нельга паскардзіцца А. Вечару і на райвыканком. Ён на пасяджэннях двойчы абмяркоўваў пытанні «Аб гатоўнасці ўстаноў культуры да работы ў зімовых умовах» і прымаў «адпаведныя» рашэнні. Варта прывесці некалькі радкоў з іх, каб пераканацца яшчэ раз на абыякавы і спажывецкі падыход да важнай справы:

«Выканаўчы камітэт Старадарожскага раённага Савета дэпутатаў працоўных адзначае, што работа па кінаабслугоўванню насельніцтва з'яўляецца вельмі нездавальняючай не толькі па частцы валавога збору (!), але і па частцы ахопу кінагледачоў» (Рашэнне № 403 ад 31 кастрычніка 1960 г.).

Далей указваецца, колькі недададзена з-за гэтага грошай у бюджэт раёна і г. д. Уся пастанова прасякнута трывогай за выкананне «валавога збору» і, як гарнір да гэтай стравы, дадаюцца фразы пра неспрыяльныя ўмовы работы. Вядома, фінплан неабходны, выконваць трэба, але і каб установы культуры працавалі ў нармальных умовах!

А вось яшчэ:

«...паставіць пытанне на пасяджэнні сельвыканкома аб пераводзе адной адзінкі калгаснага заг. клуба з вёскі Солан у вёску Навасёлкі» (Рашэнне № 398 ад 22 лістапада 1960 г.).

Пакінем на сумленні старшыні райвыканкома В. Ваньшына стыль і мову гэтых радкоў, але калі б ён чытаў тое, што падпісвае, калі б сур'ёзна ставіўся да работы бібліятэк раёна, дык зразумеў бы і ўспомніў, што калгаснымі загадчыкамі клубаў распараджаюцца праўленні калгасаў і няма ніякай патрэбы рэкамендаваць гэтае пытанне пасяджэнню сельвыканкома.

Але давайце заглянем глыбей: што зроблена ў раёне пасля гэтых рашэнняў?

Кантроль за іх выкананнем ускладзен на загадчыка аддзела культуры т. Вечара. Вось тут бы, здавалася б, як кажуць, яму і карты ў рукі. Дык не. Замест таго, каб паслаць работнікаў раённай бібліятэкі і аддзела культуры, нарэшце, выехаць самому на месцы і дапамагчы арганізаваць справу, ён бамбардзіруе райвыканком дакладнымі, запіскамі: маўляў, «на Шыпцы ўсё спакойна», на месцах без перамен.

Каб адмахнуцца ад гэтых спраў, старшыня райвыканкома «падараваў» аддзелу культуры тэкст тэлефанаграмы, замацаваны двума высокімі подпісамі: уласнаручнай і першага сакратара РК КПБ В. Баўрына. Цяпер наўздагон нядаўна прынятым пастановам райвыканкома маланкай панесліся да старшынь калгасаў тэлефанаграмы з грозным папярэджаннем аб суровым пакаранні вінаватых за зрыў кінасеансаў і за дрэннае забеспячэнне палівам клубаў.

Але і тут моўчкі абыйшлі бібліятэкі. Мо' таму, што там цёпла і светла? Не. Ад стану іх работы не залежыць бюджэт раёна.

А. Вечар з задавальненнем канстатуе, што няма парадку толькі ў калгасных бібліятэках, што там холадна і няўтульна, а ва ўсіх сельскіх ёсць паліва і святло. Яму, вядома, галава не балела, калі ў тую ж Горкаўскую сельскую бібліятэку на працягу снежня мінулага года не было завезена ні аднаго палена дроў.

Рабоце сельскіх бібліятэкараў яшчэ перашкаджаюць розныя даручэнні, якія часам даюцца сельвыканкомам. Так, напрыклад, загадчыца Дараганаўскай сельскай бібліятэкі т. Стэцкая больш дванаццаці дзён не адчыняла дзвярэй бібліятэкі, бо сельсавет абавязаў яе правесці падворны пералік жывёлы. Не закончыла яна гэтага даручэння, як ёй падрыхтавалі ўжо другое—складанне пагаспадарчых кніг.

Думаеце, А. Вечар усхваляваўся, калі даведаўся аб гэтым? Не. Гэта традыцыйная з'ява ў раёне.

Хіба ж можна пасля ўсяго гэтага гаварыць пра колькі-небудзь нармальную работу бібліятэк у раёне, пра тое, каб кнігі чыталі ў кожнай сям'і?

Іменна тут трэба пагаварыць, як разумець словы «дабіцца, каб кнігі чыталі ў кожным двары». Многія разважаюць прыкладна так: «У вёсцы сто двароў і сто чытачоў. Значыць, кнігу чытаюць у кожным двары». Навошта ашукваць людзей і саміх сябе такім падыходам да справы? Няўжо можна лічыць справу зробленай, калі з чатырох пісьменных у ёй толькі адзін першакласнік чытае «Мыйдадзір»?

Пад неаслабнай увагай усіх бібліятэчных работнікаў павінны знаходзіцца галоўным чынам людзі працы, тыя, каму трэба ствараць будучае, крочыць у заўтрашні дзень. Іменна ім мы абавязаны словам і кнігай дапамагчы ў іх справах.

Цяпер аб «непісьменных» дварах. Хто стаіць за гэтымі дзікімі і сапраўды непісьменнымі словамі? Старэнькія дзядкі і бабулі, што не маглі ў свой час атрымаць адукацыі? Ёсць і такія. Толькі ж іх не так ужо многа, каб за іх плечы схаваць сотні калгасных сем'яў, да якіх не дайшлі ў сваёй рабоце бібліятэкі...

Вось, напрыклад, М. Цыганок (в. Залужжа), Ф. Скоры і Х. Майлычка (в. Падарэссе), А. Мельнік, А. Цагойка, Ф. Грынкевіч (в. Навасёлкі) і шмат іншых. Гэты спіс можна было б падоўжыць. Усе яны па розных прычынах не карыстаюцца паслугамі бібліятэк. І галоўная з гэтых прычын тая, што пасля працоўнага дня, як яны заяўляюць, «не вельмі хочацца ісці за два кіламетры па кнігу, ды ў гэты час ужо і бібліятэка зачынена». І толькі за гэта многія калгаснікі трапілі ў спіс «непісьменныя двары».

Чамусьці ў Стадарожскім аддзеле культуры нават не ведаюць дакладна, колькі калгасных бібліятэк ёсць у раёне.

— Да ўз'яднання калгасаў было каля дваццаці шасці,—паціскае плячыма А. Вечар.

Як бачыце, «непісьменныя» двары значна лягчэй падлічыць, чым калгасныя бібліятэкі.

А хто ж іншы, як не раённая бібліятэка і аддзел культуры, абавязаны дапамагаць у іх рабоце, запрашаць на семінары і навучыць загадчыкаў калгасных бібліятэк працаваць не дзеля зводкі.

Як высветлілася, калгаснымі бібліятэкамі тут лічаць паўтары — дзве сотні застарэлых кніг, што знаходзяцца ў шафе калгаснага рахункавода. Праўда, у мінулым годзе рабілі спробу папоўніць бібліятэку, толькі з гэтага нічога не выйшла, бо старшыні калгасаў адмовіліся браць кнігі «ў дадатак» да камбікорму.

А між іншым, пры адпаведнай увазе і дапамозе з боку раённай бібліятэкі і аддзела культуры можна многае зрабіць, каб значна палепшыць работу калгасных бібліятэк.

У вёсцы Навасёлкі (калгас імя Дзяржынскага) пад бібліятэку адведзена выдатнае памяшканне. Да ўзбуйнення калгасаў у ім размяшчалася праўленне. Цяпер палова дома пустуе, калі не лічыць, што ў воблаках тытунёвага дыму хлопцы рэжуць у «казла», у другой жа — знаходзіцца калгасная бібліятэка, шафа з літаратурай у 360 кніг.

Загадвае гэтай шафай С. Цагойка, чалавек, здольны павесці справу. Але яму няма з чым працаваць, паколькі большасць кніг—застарэлыя або разлічаныя на іншага чытача. Чакаецца, што днямі прывязуць з в. Солан яшчэ з сотню кніг, падобных да гэтых.

А чаму б не даць сюды новых кніг, брашур, часопісаў і газет, чаму б з пустой палавіны дома не зрабіць добрай чытальнай залы? Тады, безумоўна, было б не шэсцьдзесят чытачоў на дзвесце двароў, а разы ў тры больш.

Ёсць магчымасці наладзіць работу калгасных бібліятэк у вёсках Аточка, Лескі, Рабак Языльскага сельсавета, Селішча, Добрынка, Солан Горкаўскага сельсавета і ў многіх іншых. Умовы для гэтага ёсць. Стаяць пустыя і халодныя калгасныя клубы. Няма толькі жадання ў работнікаў раённай бібліятэкі і аддзела культуры ўзяцца па-сапраўднаму за справу.

Ёсць у раёне бібліятэкі, ёсць пісьменныя і «непісьменныя» двары, ёсць людзі, якія займаюць адказныя пасады і павінны адказваць за стан культурна-масавай работы, ёсць, нарэшце, добрая «зводка»... з частаколам лічбаў.

А справы? Іх няма.

**І. МЯЦЬКО.**

---

Часопісы ў лютым

## «ПОЛЫМЯ»

Пад рубрыкай «Нашы сучаснікі» надрукавана паэма Антона Бялевіча «Слова пра вернага друга», прысвечаная Мікалаю Андрэевічу Аляксейчыку, былому навуковаму супрацоўніку АН БССР, які добраахвотна паехаў у вёску і ўзначаліў там адстаючы калгас, каб зрабіць яго перадавым.

Апублікавана некалькі апавяданняў і замалёвак Міхася Лынькова, напісаных па ўражаннях ад паездак за мяжу.

Надрукаваны канец першай кнігі рамана Піліпа Пестрака «Серадзібор», тры апавяданні Івана Навуменкі і апавяданне Ніны Тарас «Агатка».

Як заўсёды, багата прадстаўлена паэзія. Тут вершы Міколы Арочкі, Пятра Прыходзькі, Рыгора Барадуліна, Язэпа Пушчы, Данут Бічэль і Х. Мальцінскага.

Літаратуразнаўства прадстаўлена артыкулам В. Івашына «Аб вытоках і станаўленні сацыялістычнага рэалізму ў беларускай літаратуры».

З рэцэнзіямі выступілі ў часопісе Р. Сабаленка — на зборнік апавяданняў В. Адамчыка «Млечны шлях», Я. Усікаў — на кнігу артыкулаў Я. Герцовіча «Літаратура і жыццё народа» і А. Клышко — на аповесць А. Карпюка «Данута».

У канцы часопіса — старонка гумару «Дзядоўнік на Парнасе» і хроніка.

---

У Баранавіцкай музычнай школе займаецца звыш 500 вучняў. Тут працуюць класы скрыпкі, баяна, домры, кларнета, трубы, віяланчэлі. Многія з тых, хто сёння настойліва авалодвае музычнымі ведамі ў школе, у будучым стануць выдатнымі выканаўцамі твораў Глінкі, Чайкоўскага, Бетховена, стануць кампазітарамі, дырыжорамі.

**На здымку: Ала Якушкіна,** вучаніца трэцяга класа музычнай школы, на занятках па класу раяля. Вядзе ўрок педагог Людміла Андрэеўна **Кузьміна.**

Фота Г. Праваловіча.

---

# Прастата — добрая якасць

Сваю чацвёртую кнігу для юных чытачоў выдаў нядаўна Іван Сіняўскі *.

Пісаць для дзяцей — адказная і цяжкая справа, бо трэба пісаць проста, ясна, без розных мудрагельстваў, каб ніводным штрыхом не парушыць рэальнасці карціны, якая ствараецца; маленькі чытач вельмі чулы да ўсякага адступлення ад праўды. Але праўда жыцця патрабуе высокага майстэрства. Напісанае становіцца творчасцю толькі тады, калі гэтая праўда мастацкі асэнсавана, калі яна не пераходзіць у «спісванне» жыцця, а вымысел — у надуманасць.

У новы зборнік І. Сіняўскага ўвайшло дзесяць апавяданняў. Адкрываецца кніга апавяданнем «Дабрадзейка». З яго мы і пачнём нашу размову.

«Шмат разоў хадзіў Анціпка ў пералесак, што невялікім чубком стаіць за калгаснымі аборамі. Хадзіў ён туды часцей за ўсё збіраць суніцы і хваёвыя шышкі. А вось у Вялікім лесе, што за паплавамі, Анціпка яшчэ ніколі не быў. А пабыць там яму даўно хацелася. Хлопчыка вабілі грыбы, якіх там, калі верыць дзеду Саўку, заўзятаму рыбалову і паляўнічаму, — хоць вазамі вазі. Але аднаму Анціпку боязна ісці ў той лес, а старэйшыя хлапчукі не бралі яго з сабою». Так проста і шчыра пачынае апавяданне пісьменнік. І юнаму чытачу хочацца разам з цікаўным Анціпкам пайсці ў той Вялікі лес.

І вось Анціпка даведаўся, што Паўлік і Змітрок збіраюцца туды ісці, ён просіцца да іх у кампанію.

Мы пазнаёміліся з галоўнымі героямі апавядання. Вядома, мы не можам патрабаваць, каб пісьменнік у самым пачатку апавядання даў нам індывідуалізаваныя вобразы сваіх герояў, аднак варта адзначыць, што ўжо тут выступаюць пэўныя рысы, характэрныя для кожнага з герояў паасобку: скажам «нагананне страху» на Анціпку Паўлікам і «заступніцтва» Змітрака. Але калі гэтыя рысы не развіваюцца далей, а выступаюць як паўтарэнне, то вынікае законнае пытанне: ці заўжды патрэбна такое паўтарэнне? Звернемся да зместу апавядання.

У той сонечны ранак Анціпка, хоць і прачынаўся ўначы тры разы, праспаў. «Убачыўшы ля плота бярозавы кіёк, ухапіў яго і сеў, як на каня», пачаў даганяць хлопчыкаў. А калі дагнаў і выкінуў кіёк, то Паўлік звяртаецца да яго:

«— Дарэмна ты, Анціпка, кінуў свайго каня.

— Чаму? — запытаўся ён.

— Паедзеш дахаты.

— Калі? — вырвалася ў Анціпкі.

— Зараз, вядома, — сур'ёзна сказаў Паўлік.

Анціпка часта заплюскаў вачыма, быццам у іх трапіла парушынка, прыціх.

— Ну-ну, Анціпка. Паўлік жартуе, — зжаліўся над ім Змітрок».

Нам здаецца, што гэтым аўтар расцягвае апавяданне. Мы згодны з тым, што такі выпадак у жыцці мог быць, але ці варта пісьменніку даваць у творы ўсё тое, што магло быць. Думаецца, што ў дадзеным выпадку не варта.

Затое вобраз Анціпкі пададзены ў развіцці. З цікавасцю мы чытаем, як эгаізм Анціпкі прыводзіць да таго, што ён заблудзіўся ў лесе, і толькі пажылая жанчына, якая ва ўяўленні Анціпкі — казачная Дабрадзейка, вывозіць хлопчыка з лесу.

Іван Сіняўскі ў гэтым апавяданні, ды і ў іншых, пазбягае надакучлівай дыдактыкі павучанняў, што было характэрна для некаторых яго ранейшых твораў. Сюжэт твораў бясхітрасны, характар героя ствараецца шляхам паказу нейкага пераломнага моманту ў жыцці. Вось, напрыклад, апавяданне «Цукерка». У навагодняе свята Коля Матрунчык, «шустры непаседа», гаворыць на дзеда-мароза: «Гэта ж дзед Максім, садоўнік з трэцяй брыгады». Потым дзед-мароз расказвае дзецям, як у даўно мінулыя часы хлопчык Максімка «святкаваў» у панскім доме Новы год. Пры раздачы дзедам Максімам падарункаў выявілася, што Колі Матрунчыка няма. Стоячы ў сваім класе за шафай, ён плакаў. А колькі мы чыталі апавяданняў, пабудаваных прыкладна так: хлопчык абразіў старэйшага, за гэта яго абмяркоўваюць на класным сходзе ці савеце піянерскага атрада, і ён зразумеў сваю віну, абяцае больш не паўтараць такіх учынкаў. У апавяданні «Цукерка» само жыццё пераконвае героя.

Нядрэнна гучыць і апавяданне «Бабка, Каця і Пеця».

Аднак аўтар дзе-нідзе ўсё ж такі збіваецца на маралізацыю. Асабліва гэта наглядаецца ў канцоўках апавяданняў. Так, у апавяданні «Дваццаць пяць рублёў» у двух хлопчыкаў выпадкова застаюцца грошы, якія яны не паспелі вярнуць салдату. Жадаючы знайсці яго, хлопчыкі сустракаюць маёра і расказваюць яму аб усім. Маёр падказвае ім, дзе сустрэць салдата, і дадае:

«— Толькі глядзіце, не пракурыце яго грошы.

— Ды не, таварыш маёр, мы не курым!

— Малайцы, — пахваліў камандзір, і на яго шырокім загарэлым твары з'явілася цёплая ўсмешка».

У апавяданні «Выпадак у полі» Генка і Насця з цяжкасцю праганяюць з аўсянага поля каня Орліка. І вось з'яўляецца конюх дзядзька Тодар. Дзеці расказваюць яму аб сваім учынку. Дзядзька Тодар «пахваліў рабят і нават паабяцаў пры выпадку пачаставаць іх цукеркамі».

Можа гэта і гучала б добра, калі б кожнае з апавяданняў было надрукавана асобна, але калі яны ўключаны ў адзін зборнік, то гэта стварае ўражанне паўтарэння, непатрэбнай надакучлівасці. Але гэтак толькі ў асобных апавяданнях. Увогуле ж кніжка напісана рукою пісьменніка, які ведае юнага чытача, яго жыццё. І таму апавяданні, акрамя выхаваўчага, маюць і пазнавальнае значэнне.

Мова апавяданняў стварае пачуццё блізкасці да герояў, яна жывая і, як мы ўжо адзначалі, простая.

**А. ГАРДЗІЦКІ.**

*) **Іван Сіняўскі.** Дабрадзейка. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск. 1960.

---

# На экране — фільмы Кітая

14 лютага спаўняецца 11 год з дня падпісання дагавору аб дружбе, саюзе і ўзаемнай дапамозе паміж Савецкім Саюзам і Кітайскай Народнай Рэспублікай. У сувязі з гэтай знамянальнай датай з 11 па 16 лютага на гарадскіх і сельскіх кінаўстаноўках Беларусі паказваюцца кітайскія кінафільмы.

З вялікай цікавасцю беларускія гледачы паглядзяць кінакарціны «Баскетбалістка № 5», «Агні на граніцы», «Чырвонае насенне», «Ланьлань і Дун-дун», «Запіскі медсястры», «Справа Сюй Цю-ін», «Абпаленыя спякотаю», «Крылатыя абаронцы», «Звычайная прафесія», «Чараўнічы ліхтар», «Гун Ся» і інш.

Фільм «Пісьмы з фронта» расказвае аб працоўным подзвігу кітайскіх жанчын, якія правялі сыноў і мужоў добраахвотнікамі на карэйскую вайну, развязаную амерыканскімі імперыялістамі.

Цесная дружба яднае кітайскіх і савецкіх кінематаграфістаў. Іх сумеснымі намаганнямі створана некалькі хранікальна-дакументальных карцін.

У дні паказу кітайскіх фільмаў на экранах рэспублікі будзе шырока дэманстравацца каляровая савецка-кітайская кінааповесць «У адзіным страі» — цікавае і хвалюючае апавяданне пра будаўніцтва на адной з вялікіх рэк Кітая буйнай гідраэлектрастанцыі, якая не толькі дасць электраэнергію, але і назаўсёды абароніць палі ад разбуральных паводак. Фільм услаўляе непарушную дружбу народаў Савецкага Саюза і Кітайскай Народнай Рэспублікі.

У гэтыя дні будуць паказаны кітайскія хранікальна-дакументальныя карціны «Вялікі Сун Ят-сен», «Жыццёвы шлях Лу Сіня», «Вясёлыя песні і танцы», «Іскра разгарэлася», «За вялікі скачок у вёсцы», «Гнеў 600 мільёнаў» і інш.

**Н. КУЗЬМІЦКАЯ.**

---

*ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ*

## «Не на сваім месцы»

Пад такой назвай у 5 нумары нашай газеты за г. г. была змешчана заметка І. Астраглядава «Не на сваім месцы», у якой крытыкавалася работа Гомельскага аблкнігагандлю.

Начальнік Упраўлення кніжнага гандлю Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР тав. С. Патупчык паведаміў рэдакцыі, што сапраўды ў Гомелі і Гомельскай вобласці кнігагандлем прададзена кніг у 1960 г. на 15 900 руб. менш (у пераліку на новыя грошы), чым у 1959 г. Большая частка магазінаў аблкнігагандлю не выканала гадавы план тавараабароту.

На складзе № 3 выяўлена буйная недастача. На Мазырскім складзе сабралася непрададзенай літаратуры больш чым на 300 тысяч рублёў.

Начальніку Гомельскага аблкнігагандлю тав. Вяршэню за грубыя адносіны да падначаленых і невыкананне плана тавараабароту зроблена папярэджанне.

---

# У Музеі Якуба Коласа

## НА МОВАХ НАРОДАЎ СВЕТУ

Імя выдатнага беларускага песняра Якуба Коласа вядома далёка за межамі нашай Радзімы. Толькі за апошнія гады выдадзены і перавыдадзены на рускай мове творы «На прасторах жыцця», «У палескай глушы», «Дрыгва», «Новая зямля», «Рыбакова хата», «Сымон-музыка», «На ростанях», вершы, п'есы і апавяданні.

На ўкраінскую мову зрабіла пераклад трылогіі «На ростанях» Галіна Вігурская. Яна прывезла кнігу ў Мінск і падаравала Літаратурнаму музею Якуба Коласа з аўтографам. Побач з гэтай кнігай экспануецца твор Якуба Коласа «Вайна—вайне» ў перакладзе на ўкраінскую мову. Ён таксама з аўтографам Галіны Вігурскай.

На ўзбекскую, туркменскую і казахскую мовы пераклалі «Выбраныя вершы» Хамід Алімжан, Атаніязаў і Бехкожын, на фінскую — «У палескай глушы» У. Руханен. На польскай мове выдадзены «Дрыгва», «На прасторах жыцця», «У палескай глушы».

Вершы класіка беларускай літаратуры друкаваліся і на нямецкай мове («Сучасная еўрапейская лірыка. 1900—1955 гг.», т. І.). У італьянскім часопісе «Усходняя Еўропа» друкаваліся вершы «Ворагам» і «Не бядуй».

Вялікай папулярнасцю карыстаюцца творы Якуба Коласа сярод дэмакратычна настроеных мас Англіі і Германіі. Яго творы некалькі разоў змяшчаліся ў часопісе «Савецкая літаратура», які выходзіць на некалькіх мовах свету. У мінулым годзе, напрыклад, Музей народнага паэта атрымаў аповесць Якуба Коласа «Дрыгва» ў перакладзе на нямецкую мову. Кнігу выпусціла Выдавецтва культуры і прагрэсу ГДР. Яе прыслала Шарлота Айхарн, якая жыве ў Берліне і раней пабывала ў Музеі Якуба Коласа.

У час вайны ў 1943 г. верш Коласа «Фашысцкім бандытам» быў змешчаны ў кітайскім часопісе «Культура Кітая і СССР», у тым жа годзе верш «Голас зямлі» быў надрукаван у зборніку «Блакітны канверт» (Чунцын), а за год да адкрыцця Музея Якуба Коласа з Кітая паступіла аповесць паэта «Дрыгва» ў перакладзе на кітайскую мову.

Шмат твораў Якуба Коласа перакладзена на чэшскую, албанскую, румынскую, італьянскую, французскую, карэйскую і іншыя мовы. Многія з іх экспануюцца ў музеі народнага паэта.

## ФОТАКОПІІ РУКАПІСАЎ

З рукапіснага фонду бібліятэкі Літоўскай Акадэміі навук у Літаратурны музей Якуба Коласа паступілі фотакопіі рукапісаў ранніх вершаў і баек беларускага паэта («Восень», «Вясна», «Перад навальніцай», «Захад сонца», «Ноч», «У дождж», «Ніва», «Зіма», «Лес зімой» і інш.). Прыслана фота больш трыццаці твораў. Большасць з іх напісана ў Пінкавічах, дзе працаваў Канстанцін Міхайлавіч пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі.

**М. ЖЫГОЦКІ.**

---

# Руднянскія артысты

Павагу і аўтарытэт працаўнікоў вёскі заваявалі самадзейныя артысты Руднянскага сельскага клуба Карманскага раёна. У гэтым творчым калектыве каля 20 чалавек—маладыя калгаснікі, даяркі, свінаркі.

Харавы гурток узначальвае член савета клуба Руднянскай сямігадовай школы Аляксандра Яўсееўна Шульга. Самадзейныя артысты — частыя госці ў вёсках Літвінавічы, Зяцькавічы, Быч і інш. У праграме канцэртаў — харавыя песні, дуэты, сола. інтэрмедыі, мастацкае чытанне. Калектыў мастацкай самадзейнасці выступіў нядаўна з новай канцэртнай праграмай.

Савет клуба часта арганізоўвае канферэнцыі чытачоў. За апошні час праведзены канферэнцыі па кнігах «Кукуруза— каралева палёў», «Грамадскаму статку—сытную і цёплую зімоўку» і інш.

Пад кіраўніцтвам загадчыцы сельскага клуба Валянціны Палякшанавай самадзейныя артысты рыхтуюць яшчэ адну канцэртную праграму.

**А. САВЕЛЬЕЎ.**

---

# ХАРАСТВО РОДНАЙ ПРЫРОДЫ

Вельмі мала такіх мастакоў, якія б не звярталіся да пейзажнага жанра. Можна сказаць, такіх амаль няма. Ці не таму, што ў пейзажы мастак асабліва можа выказаць свае пачуцці, як паэт, аб роднай зямлі?

Іншы раз у карціне і сапраўды адчуваеш паэзію родных краявідаў, прыгажосць нашай Радзімы. Але часта гэтая паэтычнасць застаецца па-за творам, глядач сам дадае тое, чаго няма ў карціне, у якой на першы план вылучаецца толькі прыём, манера, каляровыя мазкі. Такі пейзаж вабіць толькі ў першы момант, а другі раз глядзець яго ўжо не хочацца.

Паэтычная ўзнёсласць характэрна для пейзажаў В. Цвіркі, паказаных на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы. В. Цвірка імкнецца ў простых, здавалася б, звычайных матывах, перадаць эпічную веліч прыроды Беларусі. Гэта асабліва адчуваецца ў пейзажы «Родныя далі», на якім паказана ўзгоркавая мясцовасць, парослая хмызняком і дрэвамі. Пры святле месяца яна выглядае незвычайна рамантычнай, прыўзнятай. Такое ж адчуванне ёсць і ў пейзажы «Мінскае мора».

Для кожнай карціны В. Цвірка знаходзіць сваё каларыстычнае адценне. Ім вызначаюцца «Стагі», «Ветраны дзень», «Зіма», «Лагойскі сказ». Праўда, захапіўшыся вонкавай прыгажосцю, мастак часам губляе адчуванне часу і настрой.

Ад Цвіркі — аднаго з вядучых пейзажыстаў — мы маем права патрабаваць большага.

На выстаўцы многа пейзажаў, у якіх хоць і не заўсёды паказаны прыкметы часу, але ёсць радаснае светаадчуванне савецкага чалавека. Поўныя суровай прастаты пейзажы П. Масленікава «Мінскае мора», «Поўдзень», «Шэры дзень». Асабліва добры пейзаж «Мінскае мора». Хоць тут толькі водная прастора і неба над ёй, але праз гэты нескладаны матыў мастаку ўдалося перадаць паўнату жыцця прыроды, яе веліч і прыгажосць, бадзёрае пачуццё радасці.

Такое ж пачуццё ў нейкай меры выклікае пейзаж Ф. Дарашэвіча «Прыпяць». Але трэба зазначыць, што напісаны ён недастаткова цэласна. Жоўтыя палосы пяшчанага берага вельмі рэзка вылучаюцца на фоне сініх вод ракі.

Сціплая прыгажосць прыроды Беларусі — у пейзажы В. Жолтак «Разліў на Беразіне». Гледзячы на гэты пейзаж з яго тонкім серабрыстым каларытам, міжволі думаеш: не ўсё тое прыгожае і прывабнае, што яркае. В. Жолтак пранікнёна перадала стан зменлівай прыроды над шырокім разлівам ракі.

Да гэтага ж імкнуўся і Б. Звінагродскі ў пейзажы «Сож. Лёд прайшоў», паказваючы раку ў пару ранняй вясны. Шкада, што гэтаму пейзажу не хапае той цэласнасці, бадзёрасці, якія былі ўласцівы яго ранейшым работам.

Вясёлы надыход вясны перадае мастак А. Гугель у пейзажы «Вясна на рацэ Лявонаўка», напісаным яснымі, чыстымі фарбамі.

Любяць паказваць беларускія жывапісцы дарогі свайго роднага краю. Вось «Ракаўская шаша» А. Гугеля. Ранняя вясна. Па ўскраінах дарога адтала, там-сям відаць мокрая зямля з ледзь бачнай яшчэ мінулагодняй травой. Па цёмным асфальце дарогі імчаць грузавік з бярвеннямі, легкавыя машыны. Веснавая цеплыня змагаецца з холадам.

«Дарога» Я. Зайцава паказана ў пару восені. Подых ветрыку калыша пажоўклыя дрэвы. Дарога віецца і здаецца жывой. Вось-вось праімчыць па ёй машына або пройдзе чалавек. Запамінаецца таксама пейзаж Я. Зайцава «Торф». У ім ёсць рысы прыроды, пераўтворанай працаю чалавека.

Што характэрна для многіх пейзажаў выстаўкі? Тыповасць выбраных матываў прыроды Беларусі, уменне выбраць не выпадковы, а іменна характэрны для мясцовай прыроды сюжэт. І калі пры гэтым мастак даносіць да гледача дыханне прыроды, тонкія, часам ледзь улоўныя пераходы яе стану, тады перамога поўная. Тады можна сказаць, што мастак не пасіўна спісвае, а выяўляе у сваім пейзажы чароўнасць родных мясцін.

Гэтую якасць мы знаходзім у пейзажы А. Шыбнёва «Над возерам», фарбы якога перадаюць радасны настрой цёплага летняга дня.

Настроем згасаючага дня прасякнут пейзаж Г. Азгур «Асенні вечар». Утульнасць мяккага зімовага дня перадае «Зіма» П. Крохалева. Блізкія кожнаму, сціплыя матывы Беларусі адлюстроўваюць мастакі М. Беляніцкі («Статак», «Зімовае змярканне»), П. Гаўрыленка («Мокры луг»), С. Лі («На рацэ Гайне»), В. Сабалеўскі («Зямля»).

Пейзажы часта падзяляюць на лірычныя і індустрыяльныя. Прычым, пад апошнім разумеюць пейзаж, дзе паказаны фабрыкі, заводы, новабудоўлі і г. д.

Ці варта праводзіць рэзкую мяжу паміж гэтымі двума відамі пейзажаў? Справа ў тым, што ніякія дэталі і элементы, якія сведчаць аб дзейнасці людзей, яшчэ не зробяць пейзаж паўнацэнным, калі ў ім няма паэтычнага адчування прыроды. Гэта павінна арганічна спалучацца і ўзаемна дапаўняць адно другое. Усё новае, створанае працаю чалавека, яшчэ больш велічным успрыймаецца ў акружэнні адпаведнага паэтычнага вобраза прыроды. Інакш пейзаж становіцца проста фіксацыяй факта.

Сярод пейзажаў, якія называюцца індустрыяльнымі, на выстаўцы найбольш прыкметныя работы Н. Воранава, А. Каржанеўскага і М. Данцыга.

Пейзажы Н. Воранава вабяць тым, што ў іх ёсць гэтае спалучэнне настрою прыроды і прыкмет эпохі. Н. Воранаў — жывапісец, які свабодна валодае каларытам, тонам. Ніколі ў яго няма чарнаты. Яго «Індустрыяльны пейзаж» напісаны не суха пратакольна, а з пачуццём. Мастак любуецца тым, што адлюстроўвае, і не пакідае абыякавым гледача.

А. Каржанеўскі ў кампазіцыях «На Полацкім нафтаперагонным», «Нафтаперагонны будуецца» грунтоўна і, можна сказаць, нават вельмі дэталёва паказвае будаўніцтва вялікага завода. Цеплыня пачуццяў мастака, які не засланяе магутнай тэхнікай чалавека-працаўніка, робіць прывабнымі гэтыя работы. І ўсё ж ім не хапае належнага абагульнення. Мастак больш пералічвае, чым вылучае галоўнае. Куды больш цэласны і паэтычны пейзаж А. Каржанеўскага «Вечарэе. Пасёлак Полацкі». Тонка, прыгожа напісан рабочы пасёлак у акружэнні роднай прыроды на змярканні. Добры пейзаж М. Данцыга «Гудзе зямля салігорская. Вячэрняя змена». У ім ёсць упэўнены рытм сучаснасці і рамантыка творчасці. Настрой працоўнага ўздыму падкрэсліваецца ўрачыстым, прыўзнятым станам прыроды ў час заходу сонца. Характэрныя сілуэты капроў з агеньчыкамі акон выразна вырысоўваюцца на фоне неба.

Малады мастак піша ўпэўнена, адчувальна. Аднак не заўсёды яму ўласціва пачуццё меры. Часам каляровыя кантрасты і рэзкія контуры пачынаюць пераважаць. Гэта ўласціва кампазіцыям «Растуць новыя кварталы» і «Раніца новага Мінска». Апошнюю варта аднесці да ліку гарадскіх пейзажаў, якіх на выстаўцы прадстаўлена даволі мала. Выразнасць пейзажу «Раніца новага Мінска» зніжаецца з-за яго сухаватасці. Праз адчыненыя дзверы балкона відаць нібы перадсвяточная вуліца Мінска. На вуліцы ранішняе ажыўленне. Але тое, што гэта раніца, можна здагадацца толькі па назве, таму што стану раніцы мастак не паказаў. Пры ўсім тым М. Данцыг імкнецца перадаць кіпучы рытм жыцця сучаснага горада.

Імклівае жыццё сталіцы Беларусі паказана ў добрым гарадскім пейзажы А. Мазалёва «Мінск. Плошча Перамогі».

Сваё патаемнае, асабліва блізкае кожнаму мінчаніну перадаў мастак А. Кроль у мінскіх пейзажах. Зімоваму гораду, які зззяе белізною, асаблівую прыгажосць надаюць пакрытыя інеем дрэвы і кусты («Іней»); утульны зялёны куток саду, асветлены сонцам, гасцінна запрашае адпачыць («У батанічным садзе»).

Пачуццём аптымізму прасякнуты пейзажы «Круты мост» В. Казачэнкі, «Пасёлак будуецца» С. Каткова, «Палац культуры тэкстыльшчыкаў» І. Дзьмухайлы. Выразная кампазіцыя пейзажу І. Пушкова «Нёман ля Замкавай гары». Характэрны для Віцебска сюжэт перадае Ул. Дзежыц у пейзажы «Веснавы вечар. Ля Віцебскай цэц».

У мастакоў Беларусі ёсць пэўныя дасягненні ў стварэнні гарадскога пейзажу. І ўсё ж значных гарадскіх пейзажаў яшчэ вельмі мала, асабліва недастаткова адлюстравана прыгажосць Мінска.

У некаторых пейзажах вельмі шмат разважлівасці, што зніжае іх паэтычнасць. Часам успрымаецца толькі прыём, а стан мала выражаны. Такія работы І. Басава «Пачатак кастрычніка», «Вясна», «Заводская ваколіца». Надакучлівыя прыёмы ў пейзажы П. Данелія «Асенні настрой», у «Пейзажы» М. Сямілетава. Вельмі ярка напісаны лужок зусім паглынае пейзаж «Майская зеляніна» В. Савіцкага.

Хацелася б, каб больш было ў пейзажах беларускіх жывапісцаў эпічнай шырыні і веліччы, каб вялікія пераўтварэнні, здзейсненыя беларускім народам, знаходзіць адлюстраванне і пры перадачы вобразаў роднай прыроды Беларусі.

Беларускім мастакам яшчэ прадстаіць быць адкрывальнікамі ў такім глыбока паэтычным жанры, як пейзаж.

**Ф. ЛЕЙТМАН.**

# БЛІЖЭЙ ДА ЖЫЦЦЯ, ДА СУЧАСНАСЦІ

Па вершах, якія друкаваліся ў перыёдыцы, і па зборніку «Матчына душа» мы ўжо мелі магчымасць пазнаёміцца з творчасцю здольнага маладога паэта Уладзіміра Караткевіча. А нядаўна ў свет выйшаў другі яго зборнік «Вячэрнія ветразі»*).

У свой час, адзначаючы дадатныя і адмоўныя бакі ў творчасці Ул. Караткевіча, крытыка гаварыла аб уласцівай яму ўзнёслай рамантычнасці, эмацыянальнасці, улюбёнасці ў прыроду, сказава-баладнай форме, указвала таксама на залішнюю дэталізацыю і апісальнасць. Ва ўсім гэтым была вялікая доля праўды. Другі зборнік аддзяляе ад першага менш двух год. Паэт за гэты час зрабіў у творчасці значны крок наперад. Завастрылася яго назіральнасць, пашырылася тэматыка, узбагаціліся мастацкія сродкі.

Вершы Ул. Караткевіча адразу можна адрозніць па іх зместу і форме. Вось перад намі хвалюецца натоўп. Мітынгі. Гэта Мінск часоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, ідзе барацьба з контррэвалюцыяй.

Скуголяць інтэрвентаў параходы,
У полымі вайны Дзвіна і Сож,
І гвардыя краіны — ўзвод за ўзводам —
На сто франтоў выходзіць басанож.
(«Дзень першы»).

Мы бачым смяртэльна стомленага, худога мужчыну, які ў халодным пакоі, «дзе ад буржуйкі сіняваты дым», працуе над вельмі адказным перакладам.

Спяваюць цягнікі на двух вакзалах,
Не астывае ярасці напал.
Перакладае малады Купала
Для новых дзён «Інтэрнацыянал».

Паэт рэалізаваў сваю задуму ярка, усхвалявана і ў той жа час лаканічна.

Ул. Караткевіч бярэцца вырашаць розныя і часам вельмі кантрасныя тэмы. Гісторыя і сучаснасць, падказаныя імі асацыяцыі — на гэтым даволі часта грунтуюцца яго вершы. Затрымаў паэт увагу і на «здабытчыках каменнага святла» — гарняках, чыю пачэсную працу ўславіў у вершы «Над шахтамі». Верш напісаны сціпла, але з тым лірычным запалам, без якога не можа быць паэзіі. Асноўная яго думка — вера ў стваральную працу людзей, у сілу калектыву.

Тонкае адчуванне прыроды — адметная рыса Ул. Караткевіча як паэта. Захапленне прыродай, любоў да яе кладуць адбітак на многія яго вершы. Малюнкі прыроды ў іх знаёмыя, родныя, беларускія.

У многіх вершах мы бачым наш азёрны край, ціхую рамантыку яго вечароў, уяўляем сабе яго добрых, працавітых людзей. Сама назва зборніка з паэтычнага пункту гледжання прыгожая, арыгінальная, вобразная. Але яна далёка не адлюстроўвае тэматычнай мэтанакіраванасці зборніка. Чаму, напрыклад, вячэрнія ветразі? У вершы мы гэта разумеем, а ў адносінах да ўсяго зборніка з такім жа поспехам можна было сказаць: ранішнія ветразі, дзённыя ветразі і г. д.

Пасля таго, як савецкі народ праклаў дарогу ў космас, у нашай паэзіі з'явілася нямала вершаў на гэту тэму. Не мог застацца ад яе ў баку і Ул. Караткевіч, схільны да адлюстравання вострых пачуццяў і рамантычных прыгод. Вось верш на гэту тэму, які пачынаецца радком «Трагедыі не знікнуць пры Камуне». Хлопец кахае дзяўчыну, але павінен ляцець у космас, бо характар у яго неспакойны, адважны, прагны да адкрыццяў. Ён хоча

...Сусвет бязмежны зведаць.
Шукаць разумнае, шукаць людзей.
Ў туманнасці далёкай Андрамеды...

Дзяўчына застаецца на зямлі, сумуе, чакае. Нарэшце вяртаецца і хлопец, але тая, каго ён кахаў, непазнавальна пастарэла. Касмічнае імгненне адэкватна гадам на зямлі, а іх мінула аж дваццаць. Дык вось у чым «трагедыя»! Мы здагадваемся, што паэт жартуе, бо яго героям уласціва захапленне героікай, у гэтым іх прызванне, і яны адчуваюць сябе шчаслівымі.

І, можа, шчасце менавіта ў гэтым,
Каб любаму аддаць усе гады,
Каб адкрываць нязнаныя планеты,
Сівець, чакаць, кахаць, расціць сады,
Не быць ніколі вербным херувімам,
І для адвечнай мары дарагой
Ў пылу касмічным, у агні і дыме
Спаліць жыццё над цёплаю зямлёй.

Верш перадае радасць пакарэння поўначы і цаліны, радасць пуску гіганцкіх каналаў і электрастанцый, смутак развітання і слодыч сустрэч. І гэта не трагедыя, а сапраўднае шчасце.

Тэма барацьбы за мір знайшла ўвасабленне ў хвалюючым вершы «Прарок Геронім Босх». Не будзем паглыбляцца ў тое, што ўбачыў паэт на карціне «Страшны суд» славутага нідэрландскага мастака пачатку XVI стагоддзя Гeроніма Босха. Ён сцвярджае, што ўбачыў на ёй нейкія машыны, падобныя на сучасныя танкі і гарматы. Магчыма, кашмарная фантазія мастака і парадзіла нешта падобнае, тым больш, што характар яго творчасці, якая працякала пад іспанскім прыгнётам, вельмі суровы, сатырычны, з'едлівы. Важна іншае: як праз маленькую дэталь паэт здолеў перадаць сутнасць творчасці вялікага мастака, звязаць яе з нашай надзённасцю. Гнеўны папрок паэта накіраваны не ў адрас мастака, а ў адрас сучасных падпальшчыкаў вайны ў капіталістычных краінах:

Вы, васковыя душы,
З ланцугоў кашмары спусцілі,
Вы над роснай зямлёю
Смерці грыбы ўзрасцілі...

У вершы гучыць упэўненасць у перамозе сіл міру над сіламі вайны.

«Увага! Увага! Увага!
Выбухаў больш не будзе!
Выносьце скульптуры і кнігі,
Спявайце і смейцеся, людзі!
Выносьце дзяцей заспаных
Пад сонечных гукаў прыбой!
Выносьце карціны Босха!
Адбой!
Вечны адбой!»

У вершы «Трызненне мужыцкага Брэйгеля» з акадэмічнай скрупулёзнасцю паэт перадаў характар творчасці яшчэ аднаго нідэрландскага мастака XVI стагоддзя Пітэра Брэйгеля Старэйшага. Паэт пераносіць нас у Галандыю тых часоў, калі там панавалі іспанскія канквістадары. Задумваючыся над карцінамі Брэйгеля, ён імкнецца пранікнуць у душу мастака, улавіць яго насмешку над тупой сытасцю бюргераў, якія ў імя свайго дабрабыту прадаюць інтарэсы народа, замест барацьбы з іспанцамі займаюцца п'янствам і абжорствам. Праўда, верш гэты даволі адчувальна перакліkaецца і па каларыту і па канфлікту з паэмай Э. Багрыцкага «Карчма». Магчыма, гэта перайманне з пераймання, бо і названы твор Багрыцкага хутчэй літаратурнага паходжання (Э. Верхарн), чым цалкам арыгінальны.

Паэт звярнуўся да Галандыі XVI стагоддзя не выпадкова. Там у той час ішла нацыянальна-вызваленчая барацьба. Такую ж барацьбу мы бачым і сёння на вялікіх абшарах Афрыкі і Азіі. У вершы «Буслы вучаць дзяцей» гучаць адгалоскі гэтай барацьбы. Негрыцянскі правадыр кажа дзяўчыне:

Я прайду праз лясы, дрыгву і завалы,
Я забуду твой цёплы смяшлівы рот,
Я на мнгве паспрабую дзіды трывалaсць:
Ці праб'е яна ворагу прагны жывот.

Актуальнасць гэтых радкоў адчуваецца і сёння. На нашых вачах ідзе барацьба мужнага кангалезскага народа, які «спрабуе трываласць дзіды» не на мнгве, а на бельгійскіх каланізатарах.

Верш «Буслы вучаць дзяцей» па вобразнасці, лірычнай цеплыні і непасрэднасці выказаных у ім пачуццяў можна было б аднесці да лепшых у зборніку, але невыразнасць сюжэта, раздробленасць думкі зніжаюць яго вартасці. Ёсць у вершы і стылістычныя пагрэшнасці:

Я нячутна вяслую
Паўз жанчын, што купаюць на плёсе дзяцей,
Колькі іх. Напэўна, цэлы дзесятак.

Коска пасля слова «дзяцей» выклікае неўразуменне. Лепей было б паставіць кропку, а пасля слоў «колькі іх» — пытальнік. І наогул, незразумела, каго паэт мае на ўвазе: дзяцей ці жанчын.

Сцвярджэнне, што «скупая зямля маёй Беларусі не раджала рабоў і не мела рабоў» мае багаты падтэкст, але сфармулявана не зусім дакладна.

Дарэчы, Беларусь чамусьці паэт заўсёды разглядае ў рэтраспектыўным плане. Ён больш звяртаецца да яе гісторыі, чым да сучаснасці.

Іншы раз узнёсласць тэмы Ул. Караткевіч прыніжае несур'ёзным падыходам да яе, выпадковымі эпітэтамі і вобразамі. Так, патрыятычная задума верша «Мокрыя травы» звялася на ніштo, не атрымала патрэбнага гучання. Пакінем у баку самую назву верша. Паэт піша: «Я сумую па радзіме». А чаму? Паэт не дае адказу. Магчыма, ён знаходзіцца далёка

(Заканчэнне на 4-й стар.).

*) Уладзімір **Караткевіч.** Вячэрнія ветразі. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск. 1960.

## Часопісы ў лютым

## «МАЛАДОСЦЬ»

У нумары надрукавана апавяданне Міхася Лынькова «Джываві» з цыкла «Так яны жывуць», аповесць А. Кейзарава «Нас толькі сямёра», апавяданні Васіля Быкава «Чацвёртая няўдача» і Міколы Ваданосава «Галасы на вадзе».

Змешчаны вершы Міхася Казакова, Анатоля Грачанікава і Васіля Макарэвіча.

Артыкул П. Ахрыменкі «Тарас Шаўчэнка і беларуская культура» прысвечан стагоддзю з дня нараджэння вялікага Кабзара.

Раздзел «Дарогамі сямігодкі» пачынаецца гутаркай са старшынёй Савета народнай гаспадаркі БССР А. Тарасавым («Год трэці»). Друкуецца нарыс Уладзіміра Новіка «Гаспадары падзямелля» пра слаўныя справы салігорскіх шахцёраў,

Да 80-годдзя з дня нараджэння К. Я. Варашылава змешчаны раздзел з кнігі С. М. Будзённага «Пройдзены шлях».

Гераічным подзвігам Савецкай Арміі прысвячаюцца артыкулы К. Глушаніна «Яны вызвалялі Барысаў», М. Жданава «Нашчадкі баявых традыцый» і рэпартаж І. Гусева і Я. Кучара «У гасцях у сыноў».

У раздзеле «Гары камсамольскі аганёк» — артыкул С. Кухарава «Клуб — твой дом» і фотарэпартаж Г. Мохарта і А. Дзітлава «У будучых урачоў».

У часопісе чытач знойдзе водгукі наведвальнікаў рэспубліканскай мастацкай выстаўкі і рэпрадукцыі з яе карцін, артыкул Соф'і Гурыч «Народныя таленты»—пра агляд калектываў мастацкай самадзейнасці рэспублікі, артыкул Уладзіміра Стэльмаха пра творчы шлях Тэатра імя Янкі Купалы і артыкул А. Бірылы «Як утварылася слова «рука».

Рэцэнзуюцца раман Алеся Адамовіча «Вайна пад стрэхамі» і першы зборнік вершаў Віталія Костылева «Пралескі нясуць».

Даюцца раздзелы «Агрэхі стылю» і «Сатыра і гумар».

Да часопіса прыкладаецца бясплатны дадатак для аматараў самадзейнасці «А гармонік грае, грае...»

# Карысная манаграфія

Мы гутарылі з супрацоўнікам аднаго з абласных музеяў рэспублікі. Зайшла гаворка пра слуцкія паясы.

— Слуцкія паясы, — сказаў гэты таварыш, — якія ткаліся ў майстэрні, што належала князю Радзівілу, не з'яўляюцца здабыткам народнага мастацкага ткацтва Беларусі.

— Чаму вы так думаеце?

— А таму, што паясы ткаліся на ўсходні, галоўным чынам персідскі, лад. Яны амаль не закранаді мясцовых матываў. А самае галоўнае — народ не карыстаўся гэтымі паясамі.

Пасля доўгіх спрэчак мы, нарэшце, пераканалі субяседніка, што ён памыляецца ў вывадах. Але гэтая выпадковая размова паказала, наколькі патрэбна манаграфія аб слуцкіх паясах.

З даўніх часоў пояс — неабходная частка нацыянальнага ўбрання беларуса. Прычым слуцкія паясы ў мінулым мелі сусветную славу. Іх і зараз можна сустрэць у многіх буйнейшых музеях свету.

Сярод старадаўніх цэнтраў беларускага народнага ткацтва Случчына па праву займае адно з першых месц. Узровень мастацкага ткацтва быў тут настолькі высокі, а майстэрства народных умельцаў настолькі дасканалае, што ў 1758 г. князь Радзівіл заснаваў у гэтых мясцінах уласную майстэрню па вырабу паясоў.

Слуцкія майстры, пераважна прыгонныя сяляне, капіравалі паясы, прывезеныя з Усходу, часцей за ўсё з Персіі. Прычым рабілі яны гэта не добраахвотна, а пад прымусам.

З цягам часу слуцкія майстры ва ўсходні арнамент паясоў пачалі ўплятаць мясцовыя беларускія матывы. Больш таго, на некаторых паясах беларускі раслінны арнамент пачынае пераважаць. Асабліва тут сустракаецца васілёк, незабудка, стылізаванае лісце дуба, клёна, бярозы. Вялікая заслуга ў гэтым належыць беларусу Васілю Барэцкаму, які працаваў галоўным майстрам у Радзівіла.

Ва ўмовах самай жорсткай эксплуатацыі і здзекаў слуцкія народныя ўмельцы развівалі і ўдасканальвалі майстэрства, ствараючы новыя арнаментальныя формы і ўносячы ў тканіну паясоў народныя матывы.

Да 1960 г. у нас не было грунтоўнага даследавання аб паясах. І вось, нарэшце, у канцы мінулага года Выдавецтва Акадэміі навук БССР выпусціла ў свет манаграфію Л. Якунінай «Слуцкія паясы». Падрыхтавана кніга да друку Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

Л. Якуніна многа год займалася вывучэннем слуцкіх паясоў і таму манаграфія напісана з глыбокім веданнем справы, зразумелай і простай мовай. Л. Якуніна слушна даводзіць, што вытворчасць слуцкіх паясоў — здабытак беларускага народнага мастацкага ткацтва, што «беларускія майстры пераняла і творча перапрацавалі ўсходняе рамяство, надаўшы яму нацыянальны характар».

У манаграфіі змешчаны каляровыя і чорна-белыя рэпрадукцыі. Кампазіцыя пояса як правіла складаецца з сярэдніка, канцоў і каймы. Сярэднік звычайна быў заткан дробным дэкаратыўным арнаментам, састаўныя элементы якога цалкам уваходзілі ў буйнейшыя дэкаратыўныя малюнкі, якія ткаліся на канцах. Кайма (альбо бахрама) таксама складалася з такіх жа элементаў.

Асабліва цікавыя малюнкі, вытканыя на паясах. Усе яны стылізаваны, у іх няма ценяў і паўтонаў. Але гэта не зніжае ўражання ад малюнкаў. Яны ўспрымаюцца як рэальныя. Такі мастацкі прыём дазваляў народным майстрам поўнасцю выкарыстаць увесь арсенал дэкаратыўных сродкаў, якія, дарэчы, ужываліся з вялікім майстэрствам.

Адзін з такіх сродкаў — ужыванне так званых «дапаўняльных» колераў. Як вядома, адзін колер у суседстве з другім альбо падкрэслівае яго, альбо глушыць. Калі, напрыклад, побач з чырвоным колерам змясціць зялёны, дык чырвоны будзе гучаць яшчэ ярчэй. Гэта добра ведалі слуцкія ткачы і заўсёды ўжывалі такі прыём. Таму паясы па сваёй афарбоўцы вельмі прыгожыя.

У некаторых выпадках агульны каларыт усяго вырабу быў падпарадкаваны адной якой-небудзь ідэі. Калі, напрыклад, дэкаратыўным матывам быў стылізаваны колас, ці лугавыя травы, дык каларыт быў альбо залаціста-жоўты (што нагадвала спелую збажыну), альбо зялёны (што сімвалізавала зялёны луг).

У размеркаванні каляровых плям на поясе таксама можна адзначыць шмат цікавых момантаў. Гэтыя дэкаратыўныя плямы па сваіх памерах не аднолькавыя, яны ніколі не паўтараюць адна адну. Формы стылізаваных кветак па пластычнаму вырашэнню не супярэчаць адна другой, а ўзаемна дапаўняюць малюнак.

Цікава адзначыць яшчэ адну характэрную асаблівасць слуцкіх вырабаў. Часам адны і тыя ж узоры ткаліся на розных фонах.

Асаблівую ўвагу звяртае на сябе пояс, у якім дэкаратыўным матывам з'яўляецца стылізаванае вайсковае ўзбраенне. Аўтар манаграфіі сцвярджае, што гэты пояс быў вытканы недзе на тэрыторыі Польшчы. Мы не зусім згодны з Л. Якунінай. Пры дэталёвым вывучэнні намаляванага ўзора відаць, што ўзбраенне мае рускае паходжанне. Гэта старажытнарускія сякеры, пішчалі, калчаны са стрэламі. Відаць, аўтар гэтага малюнка не прытрымліваўся ідэі адлюстравання якой-небудзь адной гістарычнай эпохі. Ён паказаў усю гісторыю развіцця айчыннага ўзбраення. Бо тут жа, побач з старажытнарускім узбраеннем, паказана і ўзбраенне пазнейшага перыяду.

Трэба адзначыць мастацкае афармленне ўсяго выдання, зробленае мастаком Ф. Навікоўскім. Яго малюнкі ўспрымаюцца як новае, арыгінальнае вырашэнне.

Кніга Л. Якунінай мае не толькі гісторыка-пазнавальнае, але і практычнае значэнне. Гэтыя матэрыялы можна шырока выкарыстаць у трыкатажнай прамысловасці, у вытворчасці віцебскіх дываноў і г. д. Узоры, змешчаныя ў манаграфіі, можна прапанаваць і як вучэбныя дапаможнікі для настаўнікаў малявання сярэдніх школ.

**Ул. ІВАНОЎ,**
**Л. ДРОБАЎ.**

# На дальняй ускраіне

Трамвай грукоча па вуліцах Віцебска, дзе зусім нядаўна былі пустэчы. Цяпер тут — жылыя кварталы, карпусы новых прадпрыемстваў. Дом культуры домабудаўнічага камбіната па-святочнаму асветлены. Вядуць да яго шматлікія сцежкі, пратаптаныя на снезе. Сюды на заняткі гурткоў мастацкай самадзейнасці прыходзяць рабочыя, служачыя домабудаўнічага камбіната, працаўнікі суседніх прадпрыемстваў — дывановага камбіната, завода радыёдэталей і інш.

Што ж тут вабіць іх?

У Доме культуры працуюць драматычны і харавы гурткі, струнны аркестр і ансамбль баяністаў, танцавальны калектыў і гурток выяўленчага мастацтва, эстрадны аркестр. Удзельнікі самадзейнасці наладжваюць канцэрты на сваёй сцэне і на сцэнах клубаў горада. Выступаюць домабудаўнікі ў калгасах і ў гарадах вобласці. Адным словам, артысты-аматары маюць вялікую і прыхільную аўдыторыю, якая падтрымлівае ў іх творчае гарэнне. Рэпетыцыйныя пакоі ніколі не пустуюць. Калі ж адбываецца чарговы канцэрт — у зале цяжка знайсці свабоднае месца.

Драматычны гурток ажыццявіў пастаноўку такіх складаных п'ес, як «Любоў Яравая» К. Транёва, «Барабаншчыца» А. Салынскага, «Два колеры» А. Зака і І. Кузняцова, а цяпер працуе над спектаклем «Кухарка» па п'есе А. Сафронава. Ставілася многа аднаактовых п'ес, і сярод іх — нязменныя «Прымакі» Янкі Купалы.

На нядаўнім аглядзе драматычных калектываў вобласці домабудаўнікі паказвалі спектакль «Барабаншчыца» і занялі другое месца.

*Рэжысёр УЛ. УЛАСЕНКА рэпеціруе з удзельнікамі драматычнага калектыву домабудаўнічага камбіната п'есу «Кухарка» А. Сафронава.*

На другім паверсе ў пpасторнай зале займаецца танцавальны калектыў, якім кіруе токар І. Харын. Калісьці ён працаваў у Варонежскім народным хоры. Прызваны на службу ў армію, апынуўся на Віцебшчыне, палюбіў наш край. Праўда, не толькі край, але і прыгожую дзяўчыну. Яна стала жонкай І. Харына, калі ён дэмабілізаваўся. Паступіў на работу на домабудаўнічы камбінат, а ў вольны час займаецца з юнымі аматарамі харэаграфічнага мастацтва.

Па бліскучым паркеце праносяцца маладыя пары. Да Дня Савецкай Арміі рыхтуецца салдацкая пляска «Дружба». За час існавання гурток паставіў многа цікавых, агністых танцаў. Палюбіліся віцяблянам сучасная беларуская вясельная пляска, маладзёжная беларуская полька, малдаўская танцавальная сюіта, украінскія, рускія, румынскія танцы.

*Хораша танцуе работніца Ядзя ДАБАТОЎСКАЯ.*

У гуртку сорак удзельнікаў. Прыемна бачыць яркія касцюмы. Кіраўніцтва камбіната не скупіцца на грошы для развіцця мастацкай самадзейнасці. Адчуваецца, што тут звяртаюць увагу на самадзейнасць не ад агляду да агляду, а кожны дзень. На гарадскім аглядзе мастацкай самадзейнасці калектыў заняў другое месца.

**М. АЛЯКСЕЕЎ.**

*Удзельніцы танцавальнага гуртка Дома культуры домабудаўнічага камбіната. Злева направа: Э. ЖАЎРЫД, Т. ТЫШКО, Т. ШАЛУХА, Я. ДАБАТОЎСКАЯ, Р. МАЦЮШКА.*

# ЧАС І СПАДЧЫНА

Творчы шлях Міколы Нікановіча пачынаўся ў той час, калі яшчэ толькі закладваліся асновы беларускай савецкай прозы і маладая наша рэспубліка перажывала першае дзесяцігоддзе існавання, калі яшчэ зусім нядаўна, толькі некалькі год назад, наш народ адстаяў рабоча-сялянскую ўладу ў баях грамадзянскай вайны і прыступіў да будаўніцтва сацыялістычнага грамадства.

Пачатак творчасці Міколы Нікановіча адносіцца да 1925 г. З гэтага часу на старонках беларускага рэспубліканскага друку з'яўляюцца яго апавяданні і аповесці. У 1926 г. выйшла першая невялікая кніжка прозы Нікановіча «Золак». Пасля — да 1931 г.—адзін за адным выходзяць новыя зборнікі пісьменніка «Радасць», «Крык працы», «Веснавы прамень», «Мяцеліца», «У паўстанцаў». Першыя творы Міколы Нікановіча з'явіліся ў друку амаль адначасова з апавяданнямі М. Лынькова, П. Галавача; за тры—чатыры гады перад гэтым наш чытач упершыню пазнаёміўся з творамі М. Зарэцкага, Р. Мурашкі — першымі прадстаўнікамі маладой беларускай савецкай прозы. Праўда, ужо плённа разгортвалася творчасць карыфеяў нашай прозы Я. Коласа, Ц. Гартнага і даволі цікавага пісьменніка, М. Гарэцкага. Адным словам, гэта быў час, калі наша проза перажывала перыяд ранняга юнацтва. У творчасці Нікановіча мы адчуваем, з аднаго боку, здаровы малады пачатак—пафас новага савецкага жыцця, але, з другога боку, пэўныя слабасці, звязаныя з перыядам маладосці нашай прозы.

У зборніку «Летнім днём»*) змешчана, бадай што, усё лепшае са спадчыны Нікановіча—яго ранняя аповесць «Мяцеліца» (1926) і сем апавяданняў, датаваных 1926—1929 гг. З гэтых твораў відаць, што Мікола Нікановіч—пісьменнік вясковай тэмы. Відаць таксама і тое, што ён заўсёды трымаў у полі зроку і ў меру сваіх сіл і здольнасцей імкнуўся праўдзіва адлюстраваць тыя парасткі новага, якія прынесла з сабой у беларускую вёску Кастрычніцкая рэвалюцыя: рост палітычнай свядомасці сялянскай беднаты, адмаўленне найбольш свядомай яе часткі ад рэлігіі, работа камсамольскай ячэйкі, укараненне ў жыццё новых метадаў вядзення сельскай гаспадаркі ў саўгасе, з'яўленне на палях сельскагаспадарчай камуны трактараў — гэтых вестуноў сацыялізма ў нашай вёсцы. Усё было дорага пісьменніку, бо ён добра разумеў, што гэтыя парасткі новага неўзабаве бурна расквітнеюць на раскаваных загонах беларускай зямлі.

І яшчэ адна тэма, якая моцна хвалявала маладога пісьменніка і якой ён прысвяціў некалькі сваіх твораў, —тэма грамадзянскай вайны, рамантыка змагання за Савецкую ўладу. Цікавасць да гэтай тэмы зусім заканамерная ў Нікановіча—і не толькі таму, што пісьменнік сам быў актыўным удзельнікам змагання, а яшчэ і таму, што падзеі грамадзянскай вайны к гэтаму часу з'ўляліся зусім яшчэ нядаўняй гісторыяй і настойліва патрабавалі мастацкага асэнсавання.

Герой апавяданняў і аповесцей пісьменніка—савецкі чалавек, барацьбіт супраць белапольскіх акупантаў; сельскі актывіст, актыўны змагар супраць усіх перажыткаў ненавіснага мінулага, за перамогу новага сацыялістычнага ладу жыцця; нарэшце, радавы селянін— сучаснік пісьменніка, які ўсведамляе перавагі савецкага ладу перад капіталістычным.

У мастацкіх адносінах творы зборніка «Летнім днём» няроўныя, але чытач беспамылкова адчувае, што пісьменніцкае майстэрства Нікановіча няўхільна расло ад твора да твора. З самых ранніх твораў яго відаць, што пісьменніку не хапала яшчэ майстэрства ў стварэнні моцнага, захапляючага сюжэта. І асабліва гэтая слабасць адчуваецца ў аповесці «Мяцеліца». Праўда, у шэрагу апавяданняў больш позняга часу мы ўжо сустракаем вострыя сюжэтныя сітуацыі, здольныя моцна захапіць чытача («Так бог даў», «Вы... звяры!», «На полі»). І гэта красамоўна сведчыла аб немалых творчых патэнцыях у пісьменніка, якія з цягам часу павінны былі развіцца.

Аповесць «Мяцеліца»—твор самы буйны і, бадай што, самы ранні. Тут найбольш поўна выявілася слабасць майстэрства маладога пісьменніка, у многім характэрная для цэлага раду прадстаўнікоў нашай маладой прозы таго часу. У першую чаргу нельга не адзначыць падмену канкрэтнага, вобразнага паказу герояў расказам аб іх, публіцыстычнымі ацэнкамі іх перажыванняў і паводзін.

Многае ў гэтай аповесці, прысвечанай паказу часоў грамадзянскай вайны, мастацкі не апраўдана, а таму здаецца чытачу мала пераканаўчым. У цэнтры твора—вобраз маладой сялянскай дзяўчыны Ганны, якая пасля цяжкіх пакут, перанесеных у белапольскім засценку, адразу і зусім нечакана для чытача робіцца атаманам паўстанцаў. Нечакана таму, што чытач да гэтага не бачыў у гераіні патрэбных для кіраўніка атрада якасцей. Падзеі грамадзянскай вайны не былі яшчэ ў патрэбнай меры выразна асэнсаваны пісьменнікам.

Непераканаўчымі для чытача здаюцца і асобныя незвычайныя сюжэтныя сітуацыі ў творы, незвычайныя баявыя ўдачы, што амаль увесь час спадарожнічаюць гераіні і атраду паўстанцаў, якім яна кіруе. Вось адзін такі прыклад: «Ганна з сабой узяла толькі двух хлапцоў і ўзяла на сябе самую цяжкую задачу: узарваць штаб, перастраляць усіх, галоўнае начальства ўзяць у палон, захапіць паперы вайсковыя». І гераіня з двума баявымі сябрамі бліскуча выконвае задуманую аперацыю. Такі, як нам здаецца, наіўны паказ цяжкіх баявых спраў паўстанцаў стварае ўражанне нейкай, хоць і небяспечнай, рызыкоўнай, але захапляючай, нават радаснай, рамантычнай гульні. І сапраўды, у адным месцы сам пісьменнік так характарызуе цяжкую і складаную баявую аперацыю паўстанцаў: «Гэта не бой быў, а нейкая радасная гульня».

Не можа сведчыць аповесць «Мяцеліца» і аб майстэрстве пісьменніка ў стварэнні мастацкай дэталі пры раскрыцці характараў, псіхалагічнага стану і паводзін персанажаў і акружаючай іх абстаноўкі. І таму героі ў аповесці яшчэ вельмі схематычныя. Яны не надзелены індывідуальнымі рысамі і ва ўсіх паводзінах вельмі падобныя адзін да аднаго. Неяк плакатна пісьменнік падае (і неаднаразова) знешнасць свае гераіні («...браўнінг пры поясе, маленькая карабінка за плячыма, кулямётная стужка цераз плячо»), часта гаворыць аб яе васількавых вачах і вяночку «льняных кудзеркаў». Часам партрэтныя замалёўкі Ганны, згодна з задумай аўтара, павінны адразу стварыць у чытача ўражанне, што перад ім—рашучы і смелы барацьбіт за справу камунізма: «Вочкі запалі, твар выцягнуўся, пахудзеў, але постаць яе, вочкі-васількі і ўся яна ўяўляла з сябе чалавека, які за агульную справу, за ідэю камунізма не астановіцца ні перад чым, каб дайсці да пастаўленай мэты».

Кідаецца ў вочы, што пры паказе характараў, псіхалагічнага стану і знешнасці персанажаў сродкі маляўнічасці мовы рэзка дыферэнцыяваны і таму выразна гавораць аб сімпатыях і антыпатыях аўтара. З аднаго боку, ён усюды падкрэслівае выключную прыгажосць і прывабнасць гераіні Ганны і яе каханка Петруся—воіна Чырвонай Арміі—і, з другога боку,—агідны, карыкатурны выгляд ворагаў-акупантаў. Вось белапольскі жандар: «Вусы натапырыў, маслам вышмальцаваў, валасы гэтаксама, шэрымі кацінымі вачыма-п'яўкамі ўпіваецца ў кожнага». А вось яшчэ аб вачах яго ніжэй: «Вочкамі гадзючымі забегаў па хаце».

Пры наяўных слабасцях у паказе герояў заўважаецца, што пісьменнік часам умеў пераканаўча падаць унутраны псіхалагічны стан героя. Такой яркай псіхалагічнай карцінай (а ў творы яна сустракаецца яшчэ вельмі рэдка) уяўляецца нам напрыклад, уяўная гутарка Ганны, змучанай, скатаванай у паліцэйскім засценку, з Петрусём.

Да аповесці «Мяцеліца» тэматычна прымыкае апавяданне «Вы... звяры!» (1926). Блізка яно да аповесці і па ступені мастацкага майстэрства і таму характарызуецца такімі ж недахопамі, што і «Мяцеліца».

Наступныя апавяданні, змешчаныя ў зборніку, ужо ствараюць у чытача ўражанне аб росце пісьменніцкага майстэрства М. Нікановіча, і рост гэты быў даволі хуткі. Так, ужо ў апавяданні «На полі» (1926) выступаюць, напрыклад, індывідуальныя рысы партрэта персанажаў, чаго няма яшчэ ў «Мяцеліцы» і апавяданні «Вы... звяры!».

Пісьменніка цікавіць праблема выкрыцця прыватнай уласнасці, якая нараджае азвярэнне, дзікунскія бойкі паміж суседзямі Петраком і Кузьмой за дзве спрэчныя баразны поля. Гэтая варожасць паміж суседзямі цягнецца яшчэ ад дзядоў, якія калісьці «ваявалі, як цяпер іх унукі». Карціны азвярэння Кузьмы і Петрака ў многім нагадваюць эпізоды з вядомага дарэвалюцыйнага апавядання Якуба Коласа «Дзяліцьба». Яны нарысаваны Нікановічам даволі ярка. Праўда, канцоўка ў апавяданні «На полі», бадай што, недастаткова апраўданая і таму не зусім пераканаўчая: Пятрок і Кузьма—спрадвечныя ворагі — «перавыхаваліся» і памірыліся неяк раптоўна і нечакана для чытача.

Цікава адзначыць, што ў апавяданнях «Вы... звяры!» і «На полі» ставяцца пытанні барацьбы супраць рэлігіі, хоць гэтая праблема ў названых творах закранаецца між іншым. Спецыяльна антырэлігійнай тэме прысвечана апавяданне «Так бог даў» (1926). Тут, як і ў іншых творах Нікановіча, паказана беларуская вёска першых гадоў Савецкай улады. Пісьменнік бачыць у ёй парасткі новага, адчувае подых свежага, перадавога, савецкага жыцця. Але яшчэ моцна трымаюцца, хоць і дажываючы свой век, перажыткі адсталасці, цемры, некультурнасці, рэлігійныя забабоны.

Базыль—галоўны персанаж апавядання—не верыць у бога, ненавідзіць папоў: капліца і яе гнусавы звон выклікаюць у яго агіду. І пісьменнік паказвае глыбокі канфлікт у сям'і Базыля на глебе яго адмоўнага стаўлення да рэлігіі, канфлікт вельмі тыповы для таго часу. Пад уплывам цяжкіх і назойлівых лаянак жонкі Кацярыны, пад моцным яе націскам, баючыся бясконцых сварак, Базыль ідзе ў капліцу і цалуе папоўскі крыж, за што цяжка паплаціўся —моцна захварэў, заразіўшыся ад таго, хто цалаваў крыж раней.

Базыль, як бачым, — супярэчлівы персанаж. Гэты чалавек, які любіць і падтрымлівае ўсё новае, перадавое, бязбожнік—усё ж наведвае капліцу, хоць і адчувае да ўсяго гэтага агіду. І тут справа зусім не ў хістаннях, якіх у Базыля не было, а ў нязноснай жончынай лаянцы. Праўда, захварэўшы, Базыль катэгарычна, назаўсёды адмаўляецца ад наведвання капліцы пад уплывам перадавых людзей вёскі—настаўніка, сакратара партыйнай ячэйкі і доктара. Пераконваецца ў шкоднасці рэлігіі і жонка Базыля, і ён, з яе згоды, выкідае з хаты абразы. Так паказвае пісьменнік працэс перавыхавання працоўнай жанчыны ў першыя гады Савецкай улады, цяжкі і часам вельмі пакутлівы працэс. Як бачым, апавяданне «Так бог даў», выключна надзённае для свайго часу, не згубіла сваёй актуальнасці і ў наш час.

Пісьменнік зусім правільна падкрэслівае, што не рэлігійнасць прыводзіць сялян у царкву, у тым ліку і многіх жанчын—ішлі яны туды па традыцыі і толькі таму, што так заўсёды рабілі іх дзяды і прадзеды. Нікановіч правільна падмеціў адсутнасць набожнасці ў большай частцы сялянскіх жанчын, якія ў капліцы ў час набажэнства вядуць паміж сабой размовы аб сваіх гаспадарчых справах і тут жа, побач са словамі «святой» малітвы, памінаюць чорта. Адчуваецца, што Нікановіч добра ведаў псіхалогію сучаснай яму вёскі.

Адзначым тут адну цікавую асаблівасць кампазіцыі персанажных вобразаў апавядання. Мы бачылі, што ў «Мяцеліцы» пісьменнік, зыходзячы з сацыяльна-класавых адносін да сваіх персанажаў, рэзка дыферэнцыяваў сродкі мастацкай маляўнічасці, паказваючы паводзіны і знешнасць персанажаў або толькі прывабнымі (Ганна, Пятрусь, партызаны) або толькі агіднымі (акупанты). У апавяданні «Так бог даў» мы бачым ужо другую крайнасць. У Базыля паэтычная натура, ён захапляецца хараством прыроды. І, разам з тым, пісьменнік даволі настойліва падае зусім не эстэтычныя, натуралістычныя падрабязнасці яго паводзін—як нейкі своеасаблівы кантраст яго эстэтычнаму любаванню прыродай. Вось Базыль раніцай падымаецца з пасцелі: «...ён адкінуў коўдру, звесіў з ложка закасаныя аж за лыткі босыя ногі, пазяхнуў моцна, пацёр твар далонямі, як бы мыючыся, і, крэкнуўшы, як ад выпітай шклянкі спірытусу, пачаў са смакам скрэбці бок...»

Такія прыёмы стварэння мастацкага вобраза-персанажа з'яўляліся ў выніку пошукаў пісьменнікам індывідуалізаванага паказу з'яў жыцця, імкненне вызваліцца ад схематызму і шаблону. Але гэтыя прыёмы ў Нікановіча, як і ў іншых сучасных яму прадстаўнікоў маладой нашай прозы, былі эпізодам на шляху творчых пошукаў, якія з цягам часу саступілі месца ўдумліваму адбору дэталей для паказу паводзін і стану персанажаў.

Аб бясспрэчным росце мастацкага майстэрства пісьменніка сведчаць яго апавяданні: «Летнім днём», «Вясновы прамень» (1927), «Светлая даль» (1928), «На мяжы загонаў» (1928). Нікановіча моцна хвалявала сучаснасць, рэчаіснасць новай, савецкай вёскі, барацьба новага са старым, у пісьменніка былі ўсе дадзеныя, каб вырасці ў цікавага пісьменніка са сваім уласным голасам.

Мы тут гаварылі аб слабасцях і недахопах прозы Міколы Нікановіча, хоць пісьменніка даўно няма ў жывых. І гаварылі таму, што ўсе гэтыя слабасці на шляху яго творчага росту былі характэрны ў той ці іншай ступені для многіх прадстаўнікоў нашай маладой літаратуры другой палавіны 20-х гадоў. Наогул творчасць Нікановіча—у многім пройдзены этап у развіцці беларускай савецкай прозы на шляху яе няўхільнага росту. Але проза Нікановіча і сёння выклікае цікавасць, як творчасць савецкага пісьменніка (хоць і меліся ў яго паасобныя ідэалагічныя зрывы ў пачатку 30-х гадоў), які настойліва шукаў уласных шляхоў жыццёва праўдзівага адлюстравання сучаснасці.

Пісьменнік не паспеў больш-менш шырока разгарнуць свае творчыя магчымасці, свой літаратурны талент. І тым не менш, яго творчасць—прыкметная з'ява ў беларускай прозе.

**Л. ЦАРАНКОЎ.**

*) **Мікола Нікановіч.** Летнім днём. Выбранае. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Рэдакцыя мастацкай літаратуры. Мінск. 1960.

